ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
# Каталіцкі ВЕСНІК
№10 (91)
кастрычнік 2018 год
CATHOLICNEWS.BY

# Святыя Місіі ў Ваўкалацкай парафіі

Стар. 7



Айцец Анджэй Ядкоўскі:

## “Я там адчуваў сябе больш бяспечна, чым у сённяшняй Еўропе!”

*Інтэрв'ю з айцом-рэдэмптарыстам, які наведаў магілу святога Шарбеля ў Ліване*

Стар. 8–9



## Урачыстасць у Шаркаўшчыне

*Біскуп Алег Буткевіч удзяліў сакрамант канфірмацыі чатыром дзясяткам вернікаў, а таксама наведаў капліцу на могілках*

Стар. 4



Аліна Латыш:

## “Калі мы пра гэта не будзем памятаць, то мы будзем манкуртамі”

*У Паставах выйшла кніга пра гісторыю касцёла і парафіі ў Варапаеве*

Стар. 12




## Христиане и гороскопы

*Што думае пра гэта Каталіцкі Касцёл, чытайце на старонцы 14*

**Больш навін, здымкаў і відэа на нашым сайце Catholicnews.by**

Каталіцкі ВЕСНІК
№10(91)
кастрычнік 2018 г.

# Святы Айцец кананізаваў Папу Паўла VI і арцыбіскупа Рамэра



**14 кастрычніка 2018 года Папа Францішак узначаліў кананізацыйную св. Імшу ў Ватыкане. Падчас яе былі ўрачыста абвешчаны святымі сем блаславёных, сярод якіх Папа Павел VI і арцыбіскуп Оскар Рамэра.**

Да хвалы алтара былі ўзнесены таксама два італьянскія святары: кс. Франчэска Спінэлі і кс. Вінчэнца Рамана, нямецкая законніца Марыя Катарына Каспер, іспанская законніца Назарыя Ігнасія Марч Мэсу і малады італьянскі свецкі вернік Нунцыя Сульпіцыя.

На плошчы св. Пятра сабраліся дзясяткі тысяч вернікаў з розных краін свету. У гаміліі Пантыфік спаслаўся на евангельскую прыпавесць пра багатага юнака (пар. Мк 10, 17-22). Ён падкрэсліў, што для таго, каб "унаследаваць жыццё вечнае", недастаткова проста выконваць прадпісанні. Трэба прынесці сябе ў дар згодна са словамі Хрыста: "Ідзі, прадай усё, што маеш, і раздай убогім… Потым прыходзь і ідзі за Мною".

Паводле Папы, немагчыма па-сапраўднаму наследаваць Езуса, будучы прывязанымі да матэрыяльных рэчаў. У такім выпадку сэрца будзе занятае імі і не будзе мець месца для Пана. Прывязанасць да багаццяў "робіць няздольнымі любіць", а "дзе ў цэнтр ставяцца грошы, там няма месца для Бога і няма месца таксама для чалавека".

Францішак падкрэсліў, што Езус – радыкальны: Ён дае ўсё і патрабуе ўсяго. Яму нельга адказаць толькі выкананнем пэўнага прадпісання ці ахвяраць толькі частку ўласнага часу.

"Езус не задавальваецца пэўным "працэнтам любові": мы не можам любіць Яго на дваццаць, пяцьдзясят ці шэсцьдзясят працэнтаў. Усё або нічога!" – сказаў Пантыфік.

Францішак заўважыў, што сэрца чалавека падобнае да магніта: яно можа цягнуцца або да Бога, або да багаццяў; можа жыць або любоўю, або дзеля сябе. Важна, аднак, быць здольнымі пакінуць усё дзеля любові Пана: "пакінуць багацці; тугу па ролях і ўладзе; структуры, якія больш не адпавядаюць абвяшчэнню Евангелля; баласт, які не дае магчымасці рушыць наперад; путы, якія звязваюць нас са светам", – лічыць Святы Айцец.

"Без кроку наперад у любові наша жыццё і наш Касцёл будуць хворымі на "эгацэнтрычнае самазадавальненне": мы будзем шукаць радасці ў пэўнай часовай прыемнасці, будзем закрывацца ў бясплоднай балбатні, будзем шукаць камфорту ў манатоннасці хрысціянскага жыцця без запалу, дзе кропля самалюбавання будзе хаваць смутак ад нерэалізаванасці", – заўважыў Папа.

Пантыфік падкрэсліў, што смутак – гэта доказ няспоўненай любові, знак "цёплага" сэрца. Але сэрца, якое скінула з сябе цяжар багаццяў, якое любіць Пана ў свабодзе, выпраменьвае радасць, у каторай сёння існуе вялікая патрэба.

"Сёння Езус заклікае нас вярнуцца да крыніцы радасці, якой з'яўляецца сустрэча з Ім, адважнае рашэнне рызыкаваць, каб ісці за Ім, смак адмаўлення ад нечага дзеля прыняцця Ягонага жыцця", – сказаў Папа і дадаў, што менавіта такім шляхам ішлі многія святыя, у тым ліку Павел VI, арцыбіскуп Оскар Рамэра.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

# Глыбачанін склаў вечныя манаскія абяцанні ў супольнасці айцоў-марыянаў у Польшчы

**13 кастрычніка 2018 года на Гары Кальварыі на Марыянках (Польшча) у санктуарыі св. Станіслава Папчынскага пяць клерыкаў-марыянаў склалі вечныя манаскія абяцанні.**

Пану Богу на Яго заклік назаўсёды адказалі "так" два браты з Польшчы, беларус і два выхадцы з Руанды. Беларус – гэта Ілля Саўчанка MIC, які паходзіць з Глыбоцкай парафіі.

Урачыстасць, у якой прынялі ўдзел каля сарака святароў з розных краін свету, узначаліў а. Томаш Навачэк MIC, настаяцель польскай правінцыі Кангрэгацыі айцоў-марыянаў.



*Брат Ілля Саўчанка MIC са сваёй маці Ядвігай*

# Папа Францішак пазбавіў духоўнага сану двух чылійскіх біскупаў

**Папа Францішак пазбавіў духоўнага сану двух чылійскіх іерархаў: арцыбіскупа Ла-Серэна на пенсіі Франсіска Хасэ Кокса Унэуса і біскупа Ікіке на пенсіі Марка Антоніа Ардэнэса Фэрнандэса.**



13 кастрычніка 2018 года Зала Друку Апостальскай Сталіцы паведаміла, што ў абодвух выпадках былі ўжыты нормы, якія ўтрымліваюцца ў Апостальскім лісце "Sacramentorum Sanctitatis Tutela". Яны прадугледжваюць пазбаўленне духоўнага сану як вынік злоўжыванняў адносна непаўналетніх.

Рашэнне, якое Пантыфік прыняў 11 кастрычніка 2018 года, не дапускае апеляцыі.

Кангрэгацыя Веравучэння ўжо паінфармавала зацікаўленыя бакі праз іх настаяцеляў, у месцах іх прабывання. Франсіска Хасэ Кокс Унэус, будучы членам Шанштацкага руху, працягне належаць да яго.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

# У прэзідэнта Філіпін, які зневажаў Бога, знайшлі смяротную хваробу

**Раней прэзідэнт Філіпін Дутэртэ заяўляў, што сыдзе ў адстаўку, калі яму дакажуць існаванне Госпада. І ён сапраўды мае намер пакінуць пасаду: праз тое, што ў яго выявілі перадрак.**



Прэзідэнт Філіпін Радрыга Дутэртэ зрабіў заяву, што гатовы сысці ў адстаўку, калі пацвердзіцца ягоны дыягназ. Нядаўна кіраўніка краіны шпіталізавалі праз абвастрэнне сіндрому Барэта. Гэта захворванне стрававода, якое характарызуецца як перадпухлінны стан.

"Калі пацвердзіцца, што гэта рак, я не буду працягваць сваю агонію ў гэтым офісе або дзе б там ні было яшчэ", – публічна паабяцаў 73-гадовы Дутэртэ.

Нагадаем, філіпінскі лідар нядаўна стаў вядомым на ўсім свеце праз свае недарэчныя выказванні на адрас Бога. Прэзідэнт Дутэртэ назваў Госпада "дурнем" і дазволіў сабе лаянкавую фразу. Гэтым кіраўнік дзяржавы выклікаў абурэнне ў філіпінцаў, большая частка з якіх хрысціяне каталіцкай канфесіі. Словы Дутэртэ асудзілі мясцовы Касцёл і шырокая грамадскасць краіны.

Неўзабаве філіпінскі лідар зрабіў яшчэ адну заяву: паабяцаў сысці ў адстаўку, калі яму змогуць даказаць існаванне Бога. А менавіта што чалавек можа гаварыць з Госпадам і бачыць яго.

Пакуль невядома, ці ўспрыняў прэзідэнт Дутэртэ сваю смяротную хваробу як доказ існавання і дзеяння Бога, але, як бачым, сваю пасаду ён усё ж такі збіраецца пакінуць.

# Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч на Сінодзе: **моладзь патрабуе Бога!**

**"Моладзь патрабуе Бога і мудрага суправаджэння", – падкрэсліў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. Беларускі іерарх прымае ўдзел у XV Асамблеі Сінода Біскупаў, якая праходзіць у Ватыкане.**



У інтэрв'ю для "Vatican News" Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі звярнуў увагу на словы Папы, які на пачатку працы Сіноду заклікаў біскупаў разбурыць бар'еры, што аддзяляюць духавенства ад моладзі. Маладыя людзі з'яўляюцца часткай Касцёла, якая прагне быць выслуханай. Касцёлу нельга жыць пэўнымі душпастырскімі стэрэатыпамі, не ведаючы іх рэальнай сітуацыі, сказаў іерарх.

"Лекар, каб лячыць хваробу, павінен абследаваць чалавека. Каб прапісаць лекі, трэба ведаць, на што чалавек хварэе. Тое самае і тут. Трэба выслухаць маладога чалавека: чым ён жыве, якая яго ўнутраная сітуацыя", – сказаў Мітрапаліт.

"Сёння моладзь часта жыве ў сваім свеце: адзін захапляецца спортам, другі – тэатрам, а трэці – наркотыкамі ці мае неўпарадкаванае сексуальнае жыццё. Мы павінны быць побач з імі", – дадаў ён.

Арцыбіскуп Кандрусевіч перакананы, што без Бога, толькі з дапамогай сацыялогіі, вырашыць праблемы немагчыма. Ён заўважыў, што Касцёл у Беларусі робіць акцэнт менавіта на вертыкальным, а не гарызантальным вымярэнні. Яскравае сведчанне гэтага можна было ўбачыць падчас нядаўняга візіту Папы ў Літву, куды прыехала каля дзвюх тысяч пілігрымаў з Беларусі, у асноўным моладзь. Іерарх звярнуў увагу на тое, што на сустрэчы з Пантыфікам у Вільнюсе было каля паловы з іх. Большасць, аднак, накіравалася ў Каўнас, бо менавіта там была св. Імша.

Архіпастыр зазначыў, што ў працоўным дакуменце Сінода Біскупаў слова "Эўхарыстыя" сустракаецца ўсяго два разы.

"Гэтага мала. Эўхарыстыя для нас – найважнейшая. Нават сам Езус нагадвае: "Без Мяне нічога не можаце зрабіць". У фармацыі моладзі патрэбная дапамога Бога", – сказаў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі.

Іерарх выказаў задавальненне беларускай моладдзю, яе прагненнем Бога, актыўным удзелам у пілігрымках. Ён звярнуў увагу на цяжкасці, звязаныя з невялікай колькасцю святароў, адсутнасцю належных месцаў для душпастырства моладзі, але адначасова звярнуў увагу на існаванне добрых ініцыятыў, сярод якіх узгадаў пра моладзевую малітву ў інтэнцыі Сінода Біскупаў, што на працягу кастрычніка праходзіць у Будслаўскім санктуарыі.

"Я ведаю, што нам не пазбегнуць цяжкасцей, але жадаю, каб гэты Сінод даў стымул душпастырству моладзі. Хваля секулярызму, як вулканічная лава, знішчае ўсё. Мы павінны гэтаму супрацьстаяць", – зазначыў старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*



# "Любіце святарства ў сабе": пастырская сустрэча ў Шаркаўшчыне

**16 кастрычніка ў касцёле Узвышэння Святога Крыжа ў Шаркаўшчыне прайшла пастырская сустрэча біскупа Алега Буткевіча са святарамі і кансэкраванымі асобамі Віцебскай дыяцэзіі. Гэта заўсёды магчымасць пабыць разам, перажыць Эўхарыстыю і спаткаць Хрыста, якому ўдзячныя за дар паклікання.**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст;* **Леанід Юрык,** *фота*

Аб 11-й гадзіне распачалася сустрэча з Езусам Эўхарыстычным у выстаўленым Найсвяцейшым Сакраманце. Перажываючы месяц кастрычнік, прысвечаны ружанцовай малітве, манахіні адправілі гэта набажэнства.

"Сёння асаблівым чынам мы ўзгадваем св. Яна Паўла II, бо ў гэты дзень перажываем 40-ю гадавіну яго абрання на Апостальскую Сталіцу. Няхай яго заступніцтва нам сёння спадарожнічае", – адзначыў на пачатку св. Імшы біскуп Алег.

Казанне для прысутных прамовіў кс. Вячаслаў Адамовіч з Дзісны. Святар паразважаў над урыўкам з Евангелля (Лк 11, 37-41), калі Езус прыйшоў да фарысея на абед і не абмыў рук. Абурэнне фарысея выклікала не гігіена ці "маці не навучыла", а закон, які ён ведаў з маленства і паводле якога жыў. За пэўны час у яго стварылася фарысейская ментальнасць – гэта абмежаванне чалавека, немагчымасць адкрыцца на нешта новае. Выйсці за гэтыя рамкі было праблематычна. Таксама ёсць і ў жыцці святара. Святарскі спосаб мыслення часам абмяжоўвае і не дае развівацца.

Кс. Вячаслаў узгадаў свой час вучобы ў семінарыі на шостым курсе. Выкладчык тэарэтычнай часткі "Спавядніцтва" кс. Брыль сказаў на першых занятках: "Для вас, дыяканаў, шосты курс і першы год святарства – вельмі важны перыяд. Вы павінны зрабіць пераход ад ментальнасці студэнта да ментальнасці пастыра. Не ментальнасці святара, але пастыра, які дзейнічае для збаўлення душы".

Кс. Адамовіч таксама адзначыў, што "мы любім сябе ў святарстве, а павінны любіць святарства ў сабе", чаго і пажадаў на заканчэнне прамовы.

Пасля св. Імшы канферэнцыю прамовіў духоўны айцец дыяцэзіі кс. Станіслаў Памыкала. Ён распачаў цыкл разважанняў, якія будуць адбывацца на кожным спатканні. Тэма гэтых канферэнцый – уводзіны, або ўтаямнічанне ў святарства.

Затым канцлер кс. Віктар Місевіч і іншыя святары анансавалі запланаваныя на бліжэйшы час мерапрыемствы.

# Верхнядзвінская парафія далучылася да руху "Маці ў малітве"



**У Дзень Маці, 14 кастрычніка, у парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў горадзе Верхнядзвінску вернікі сабраліся на нядзельную святую Імшу, каб памаліцца за сваіх матуль і падзякаваць Богу за дар мацярынства.**

■ **кс. Аляксандр Грыцкевіч**

Адметнасцю гэтай Эўхарыстыі стала тое, што на святой Імшы разам з парафіянамі малілася спадарыня Людміла Губіна, каардынатар руху "Маці ў малітве" ў Беларусі.

Рух "Маці ў малітве" ўзнік у Англіі ў 1995 годзе, але дзякуючы сваёй папулярнасці сярод хрысціянаў хутка распаўсюдзіўся па ўсім свеце. У Беларусі таксама з кожным годам узрастае колькасць парафій, у якіх маці супольна ўзносяць малітвы за сваіх дзяцей. Бо кожная парафія – гэта сям'я, а ўсе хрысціянскія сем'і аб'ядноўвае адзіная маці – Найсвяцейшая Панна Марыя. Менавіта праз рукі Багародзіцы нашыя малітвы ўзносяцца да нябеснага алтара.

Пасля святой Імшы спадарыня Людміла расказала пра дзейнасць руху "Маці ў малітве", падзялілася сведчаннем з уласнага жыцця і заахвоціла стварыць супольнасць і ў Верхнядзвінскай парафіі. Такое малітоўнае аб'яднанне будзе добрай падтрымкай для жанчын, якія імкнуцца мець хрысціянскія сем'і і выхоўваць дзяцей на высокіх маральных каштоўнасцях. Таксама супольная малітва і духоўная падтрымка будзе добрай дапамогай для тых маці, якія перажываюць цяжкія жыццёвыя сітуацыі.

Няхай рух "Маці ў малітве" праз заступніцтва Найсвяцейшай Багародзіцы і надалей развіваецца сярод хрысціянскіх маці на нашай Бацькаўшчыне, а Верхнядзвінская парафія, якая ўрачыста далучылася да гэтага аб'яднання, будзе падтрымліваць і развіваць добрыя традыцыі гэтай супольнасці!

# Урачыстасць у Шаркаўшчыне



**Нядзельная раніца 16 верасня пачалася для вернікаў шаркаўшчынскага касцёла з прыемнага хвалявання. Больш за сорак асобаў чакалі ў гэты дзень удзялення сакраманту бежмавання.**

У кожнага свой лёс, свая дарога да Бога, але агульнай была радасць, што гэта дарога пройдзеная і сённяшні дзень назаўсёды пераменіць наша жыццё.

Кандыдаты да бежмавання сабраліся ў храм за гадзіну да пачатку святой Імшы і з радасцю сустрэлі ў святыні ксяндза-пробашча Кшыштафа Сілкоўскага, які сваімі павучальнымі казаннямі і штодзённай малітвай дапамог нам зразумець сэнс і неабходнасць прыняцця сакраманту.

А 12-ай гадзіне ў дзвярах касцёла паказалася працэсія хлопчыкаў-міністрантаў, якія суправаджалі біскупа Алега Буткевіча. Святочная Імша пачалася.

На пачатку набажэнства іерарх звярнуўся з кароткім словам да вернікаў. Ён адзначыў, што вельмі рады быць у гэты дзень з намі. У павучальным казанні біскуп Алег заклікаў прысутных паразважаць пра сувязі веры і ўчынкаў. Не можа чалавек быць вернікам, калі не пацвярджае гэта штодзённымі ўчынкамі. Актыўны ўдзел у набажэнстве прымалі кандыдаты да бежмавання. З вуснаў моладзі гучалі чытанні, спевы, усе вернікі шчыра маліліся, адбылася працэсія з дарамі.

Калі надышоў час удзялення сакраманту бежмавання, пад гукі спеваў хору павольна і ўрачыста кандыдаты па адным падыходзілі да біскупа, а потым вярталіся на свае месцы ўжо ў іншым стане. Цяпер мы свядома пацвердзілі сваю веру, сваю прыналежнасць да каталіцкай канфесіі. Бяздонная, невычэрпная крыніца дароў Святога Духа адкрылася для кожнага з нас, радасць еднасці з Богам ахапіла ўсхваляваныя сэрцы. Але разам з тым узрасла адказнасць – адказнасць за свой лёс, за лёс нашых дзяцей і моладзі ўвогуле, за нашу краіну, нашу веру.

Напрыканцы Імшы кожны з бежмаваных атрымаў з рук іерарха пасведчанне, затым зробілі агульны фотаздымак на памяць. Пасля бласлаўлення біскупа былі выказаны словы падзякі кіраўніку дыяцэзіі, ксяндзу-пробашчу Кшыштафу і катэхетцы Галіне Трызне. Ім уручылі кветкі.

Урачыстасць у касцёле закончылася, але праз гадзіну ўсе ахвотныя сустрэліся з біскупам Алегам, ксяндзом Кшыштафам і ксяндзом Генадзем на могілках. У мінулым годзе ўраган нарабіў тут вялікай шкоды: павалена шмат дрэў, парушаны многія помнікі, але фігурка Маці Божай, якая знаходзілася пасярод могілак, засталася непашкоджанай. Вернікі прывялі ў парадак месцы пахавання сваіх родных і блізкіх, і па задумцы і блаславенні ксяндза-пробашча пабудавалі грот для фігуркі Маці Божай. Біскуп Алег Буткевіч прачытаў малітву і асвяціў грот. Ён адзначыў парадак на могілках і заклікаў падтрымліваць яго заўсёды, бо гэта наша памяць пра продкаў і наш прыклад для новых пакаленняў, гэта ўчынкі, якія сведчаць пра нашу веру.

Мы дзякуем Богу за міласэрнасць і любоў да нас, за тую радасць, якую Ён дазволіў перажыць нам у гэты дзень, за шлях падрыхтоўкі, за ксяндза-пробашча Кшыштафа, каторы пасля хваробы зноў з намі, за біскупа Алега Буткевіча, што наведвае нашу парафію!

*З малітвай і ўдзячнасцю, вернікі касцёла Узвышэння Святога Крыжа ў Шаркаўшчыне*

# Памяць

**Памяць... Гэтая здольнасць адрознівае чалавека ад усяго іншага жывога.**

Намаганнямі ўрада Рэспублікі Польшча і пад кіраўніцтвам дэкана Мёрскага дэканата ксяндза Кшыштафа Міянкіны ў 2017 годзе былі добраўпарадкаваныя могілкі ў вёсцы Драгуны Мёрскага раёна, дзе пахаваныя польскія салдаты. Мясцовых жыхароў кранае такое захаванне памяці польскіх грамадзян пра сваіх землякоў, якія амаль сто гадоў таму загінулі на нашай зямлі. 8 лістапада мінулага года адбылося асвячэнне могілак.

У першыя дні лістапада мы асабліва шануем у глыбокай памяці, у сваіх малітвах пахаваных на гэтых могілках невядомых нам польскіх салдат. Зразумела, у свой час гэтыя маладыя жаўнеры вельмі хацелі жыць. На радзіме, у Польшчы, засталіся іх сем"і, іх блізкія. Гэта чыесьці дзеці, унукі, браты, мужы, маргчыма, бацькі. Так склалася, што свой апошні прытулак маладыя палякі знайшлі на ўскрайку аддаленай вёскі Драгуны... Вядома, гэта быў нясцерпны боль і адчай для іх родных.

Святы Ян Павел II, усім нам вядомы Папа, казаў: "Той, хто памятае сваё мінулае, варты добрай будучыні". Хай Пан Бог беражэ ўсіх нас, каб гэта будучыня была праслаўлена шчасцем.

Нам застаецца памятаць і маліцца за загінулых польскіх салдат, за нас, хто цяпер жыве. Мы можам толькі прасіць: добры Божа, дай душам гэтых салдат, пахаваных на мёрскай зямлі, вечнае спачыванне! І святло вечнае няхай ім свеціць!

*Ад імя мясцовых жыхароў, Алена Сакалоўская*



# О 2-м Розарийном конгрессе в Могилёве и Святом Розарии

**Благодарение Господу Богу нашему Иисусу Христу, Матери Божией – Царице Розария, организаторам конгресса, особенно отцу Роману Шульцу OP, настоятелю прихода Лурдской Божией Матери в Санкт-Петербурге отцу Стефану Катинелю, отцу Николаю Тихоновичу и группе прихода Святой Троицы в Глубоком, а также всем молитвенно поддержавшим.**

**Жанна Федина**, *модератор группы Живого Розария прихода Лурдской Божией Матери в городе Санкт-Петербурге*

Как и всем принявшим участие во 2-м Розарийном конгрессе, мне посчастливилось не только увидеть необыкновенную красоту могилёвского католического храма Успения Матери Божией с фресковой росписью на евангельские сюжеты, прочувствовать внутреннюю атмосферу конгресса и окунуться во времена жизни и деятельности Святого Фомы Аквинского, но и осознать важность развития веры с использованием своего разума, углубления в молитве и поиска правды, подготовки к переходу в вечность – единой мечты нашей христианской жизни, для воплощения которой имеем многие средства (церковь – мистическое тело Иисуса Христа, Святые Таинства и постоянная молитва); понять, что для приобретения мудрости, в первую очередь, нужно обращаться не к человеческой, а к Божией мудрости и пользоваться ею. Любовь же к Святому Писанию, принятие Слова Божия с доверием и размышление над Словом Божиим (медитация), деление Словом Божиим и выполнение (воплощение) Слова Божия приносят обильные плоды. И в этом нам помогли отец Виталий Сапега OP, отец Михаил Ермашкевич OP, Алесь Жлутка и отец Марьян Ханурек OP прочтением своих замечательных докладов.

Запомнились свидетельства о приобретённых плодах розарийной молитвы, но особенно свидетельство отца Генриха, которому Розарий в буквальном смысле спас жизнь. Во время этого свидетельства перед моими глазами всплыл образ моей бабушки по линии отца, Эмилии Андреевны Яковицкой, с Розарием читающей молитву. Именно она научила меня молиться и привела к Богу. Для Бога и для этой молитвы бабушка всегда находила время, даже в Германии, в лагере под Peiskretscham (ныне Пысковице, Польша) с Розарием она не расставалась.

Как в вагоне, когда немцы в 1942 году вывозили бабушку и дедушку с четырьмя сыновьями от 6 до 14 лет, так вплоть до освобождения Розарий не раз спасал от верной гибели и расстрела. И Господь щедро одарил её многими талантами, в том числе прекрасными музыкальными данными, мастерством портной и добрым сердцем, благодаря чему о ней так отзывались: "Это была золотая бабка!"

В ходе конгресса благоприятное впечатление произвела совместная молитва Святого Розария, читаемая с размышлениями перед Пресвятыми Дарами. Особое значение возымела Святая Месса, на которой был епископ Витебской епархии Олег Буткевич с проповедью о значении Евхаристии, примере Матери Божией и действии Бога в нас. Целесообразными и весьма полезными были краткие сведения о докладчиках, комментарии докладов и их основные выводы (резюме), которыми делился с нами епископский викарий Могилёва и Могилёвской области епископ Александр Яшевский SDB.

2-й Розарийный конгресс закончил свою работу, а незабываемое впечатление, чувства радости и единства Церкви и с Церковью и полученные духовные практики – всё это осталось и способствует не только возрастанию в вере, но и огромному желанию делиться этим с другими и воплощать Слово Божие в жизнь.

Слава Господу Богу Всемогущему! И сильна надежда, что благодаря молитве Розария в октябре 2019 года состоится 3-й Розарийный конгресс.

# Могілкі... Успаміны з дзяцінства

**Лістапад заўсёды засяроджваў мяне на пераасэнсаванні свайго жыцця.**

**Вікторыя Зарэчная**

Прырода нібы спыняе свой рух, усё заціхае... І, магчыма, зусім невыпадкова Касцёл, асабліва ў лістападзе, прыгадвае нам пра малітву за памерлых і накіроўвае яшчэ раз нашыя думкі на таямніцу вечнага жыцця...

У штодзённым жыцці я не так часта бываю на могілках. Не хапае часу. Здараецца, не магу знайсці вольны час на сустрэчу з жывымі, з сябрамі, якія побач. Кожны дзень я ўспамінаю сваіх памерлых у самай кароценькай малітве: "Вечны адпачынак дай ім, Пане, а святло вечнае няхай ім свеціць, няхай адпачываюць у супакоі вечным. Амэн". Раблю гэта не з вялікай пабожнасці або звычкі. Проста не магу па-іншаму заснуць. Я адчуваю, што нехта патрабуе маёй малітвы. Гэта цікава, бо па сваёй прыродзе я баязлівая асоба, і ўсё, што для мяне невядомае, незразумелае, тое, што немагчыма пазнаць, заўсёды пужала мяне. З памерлымі такога няма. На мяне не ўплываюць фільмы жаху, дзе нібыта памерлыя ўстаюць з магіл і ходзяць, палохаюць... Для мяне гэта глупства, фантастыка. Наадварот, я адчуваю нейкую сувязь з маімі памерлымі, бо веру ў тое, што яны таксама заступаюцца перад Богам за мяне. Калі ў мяне здараецца нейкая складаная сітуацыя, я не ведаю, як паступіць, то малюся і прашу сваю памерлую прабабулю пра заступніцтва за мяне. Мая прабабуля была сапраўднай верніцай і памерла з ружанцам у руках. Веру, што і на нябёсах яна трымае яго за ўсіх нас, хто застаўся на зямлі...

Прызнацца шчыра, у дзяцінстве я ўсё ж такі баялася могілак... У вёсцы маёй бабулі вокны спальні яе хаты выходзяць на могілкі. Калі я ўвечары клалася спаць, то старалася не глядзець на вуліцу, каб чагосьці не спужацца, нават проста баялася кінуць свой позірк у бок таго акна, каб выпадкова не пабачыць могілкі...Страх моцна мяне паралізоўваў. Але мая бабуля вельмі мудра прывіла любоў да тых самых могілак.



*Могілкі в. Малышкі, Вілейскі р-н* (верхні здымак)
*Капліца на могілках в. Малышкі, Вілейскі р-н* (ніжні здымак)

Кожную нядзелю пасля абеду мы хадзілі на могілкі, часам і ў буднія дні, калі ў бабулі была магчымасць. Яна брала ўсіх сваіх унукаў, і мы разам туды ішлі. Памятаю, як яна казала: "Я іду на "магільнік", хто са мной?" І мы адкладвалі ўсе свае гульні, ірвалі ў бабуліным агародзе кветкі, бралі з сабой ваду і ішлі за бабуляй. Пры ўваходзе на могілкі стаяў крыж, каля якога жыхары той вёскі таксама ставілі жывыя кветкі. Мы рабілі каля яго знак крыжа і цалавалі ўкрыжаванне. Памятаю, калі я не дацягвалася, каб яго пацалаваць, бо была самая малодшая з усіх унукаў, мая бабуля мяне падсаджвала, і я ўшаноўвала гэты крыж пацалункам. Далей мы ішлі непасрэдна да магілак нашых родных памерлых. Ставілі там кветкі і заўсёды чыталі "Анёл Панскі", а калі-нікалі і таямнічку ружанца. Перад выхадам з могілак мы зноў рабілі знак крыжа і цалавалі ўкрыжаванне.

Гэтыя паходы на могілкі настолькі адбіліся ў нашых дзіцячых сэрцах, што пазней, ужо нават проста гуляючы па вёсцы з сястрой, мы любілі ўзяць кветкі і пайсці туды памаліцца. Рабілі гэта ўжо таму, што палюбілі тое месца.

У вёсцы маёй бабулі няма касцёла, да найбліжэйшага каля 30 км. Людзі, каб разам памаліцца, збіраліся каля прыдарожнага крыжа або на могілках. І яны вельмі шанавалі і даглядалі гэтыя асаблівыя для іх месцы.

Асабіста для мяне могілкі сталі месцам малітвы, святым месцам, дзе ёсць Бог. Там няма страху, няма месца непатрэбным магічным рытуалам і дзеянням, там ёсць месца толькі Божаму. Нездарма першыя хрысціянскія супольнасці збіраліся для малітвы на могілках і служылі там першыя св. Эўхарыстыі. Калі я прыходжу на могілкі, то адчуваю проста еднасць з усім Касцёлам. З тымі, хто жывы, і тымі, хто ўжо адышоў... Варта там быць, варта туды прыходзіць і яднацца ў малітве.

***

Запалім свечкі.
Паймённа ўспомнім,
Каго няма і хто пакінуў нас.
Магільныя крыжы яшчэ раз нам напомняць,
Аб тым, што не вярнуць... Які няўмольны час...

Запалім свечкі.
Ведайце, мы помнім...
Ды па жыцці ў кожнага свой лёс.
Мы молімся за вас з павагай і любоўю
І ведаем, што вы нас бачыце з нябёс.

Запалім свечкі.
Хай святлеюць душы
І памяць не губляе карані.
Мы ваш спакой ніколі не парушым.
А Ты, Гасподзь, ад бед нас барані!

*Даната Варабей* (г.Мядзел)



# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета "Каталіцкі Веснік"
вул. Савецкая, 1
211793
г. Глыбокае
Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч
Віктар Мар'янавіч
вул. Савецкая, 1
211793
г. Глыбокае
Віцебскай вобл.***

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Віна. Што па чым?

**У мінулым нумары мы пазнаёміліся з эмоцыяй віны. Мае кліенты рэгулярна звяртаюцца па кансультацыі з праблемамі моцнай і / ці хранічнай віны. Я вырашыла разгледзець гэтую тэму больш уважліва, бо яна вельмі важная і актуальная, асабліва сярод людзей рэлігійных.**

■ **Таццяна Палхоўская**, *псіхолаг*



Узгадаем, віна – гэта эмоцыя, якая з'яўляецца як рэакцыя на зробленую памылку, нанесеную шкоду ці недасканаласць. Яна можа дапамагаць рэгуляваць стасункі, а можа стаць значнай перашкодай у развіцці чалавека.

Не будзем падрабязна разглядаць усе віды віны і іх назвы, але я прывяду пералік тэм, якія часта выклікаюць гэтую складаную рэкцыю.

Людзі могуць адчуваюць віну за:

● сам факт свайго існавання: я нарадзіўся, і тату давялося ажаніцца з мамай; маці кінула вучобу; бацькі ахвяравалі сабой і г.д;

● сацыяльныя асаблівасці свайго полу: я дзяўчына, таму я надта эмацыйная, не магу сябе кантраляваць, вельмі шмат размаўляю; я хлопец, таму я надта агрэсіўны, усё ламаю, не дапамагаю бацькам, займаюся лухтой;

● лад свайго жыцця: я не ажаніўся; я не выйшла замуж; я працую не цікавай, але невысока аплачвальнай працы; я люблю займацца творчасцю замест таго, каб працаваць у агародзе і мець плён;

● недастатковы клопат пра дзяцей ці бацькоў: я б мог (магла) зрабіць для іх больш;

● недаацэнку бацькоў, якія прымянялі гвалт: я не люблю сваіх бацькоў; я часта не хачу наведваць іх, не адчуваю цяпла да іх;

● недахоп лаяльнасці: раскрыццё сямейных таямніцаў, ігнараванне традыцыяў: я распавядаю пра сямейныя сваркі, аборты, хваробы; не пяку бліны зранку кожную нядзелю і г.д.;

● ігнараванне іншымі: я нецікавы, недасканалы; калі б я ведаў больш, у мяне было б больш прыхільнікаў, сяброў, кантактаў;

● ігнараванне сябе: я дрэнны, таму мяне не любілі; калі б я быў лепшы, бацькі б больш мяне любілі і клапаціліся; я сам вінаваты;

● недасканалае бацькоўства / сыноўства: я мала зарабляю, мала праводжу часу дома, мала дапамагаю і г.д.;

● непраўдзівасць самога да сябе; інакш бы ніколі не памыліўся, жыццё пайшло б па-іншаму;

● ігнараванне Бога: калі б я быў дасканалым, Ён бы звярнуў на мяне ўвагу, выслухаў просьбы.

Як бачым, прычыны быць незадаволеным сабой могуць быць рознымі, узровень рэакцыі часта не суадносіцца з узроўнем нанясення шкоды. Такім чынам, людзі часта адчуваюць сябе вінаватымі за тое, што яны ёсць такімі, якімі ёсць, часта перабольшана ці зусім без прычыны, а часта не адчуваюць віну там, дзе нанесена шкода.

З віной абыходзіцца можна па-рознаму. У мінулым нумары мы размаўлялі пра адчуванне рэальнай віны, пра жаданне выправіць шкоду і шчырае перапрашэнне. Але існуюць і паталагічныя спробы абыходзіцца з гэтым пачуццём:

■ адцягнуць увагу развагамі, працай, адносінамі, сэксам;

■ рацыяналізаваць – тлумачыць сабе: "не мы такія, час такі";

■ аўтаагрэсіраваць – паводзіць сябе рызыкоўна, весці небяспечны лад жыцця, не даглядаць сябе, наносіць шкоду свайму здароўю, учыніць самагубства;

■ прыніжаць сябе;

■ адмаўляць віну;

■ шукаць вінаватых вакол;

■ шукаць магчымасці зняць з сябе віну праз дапамогу іншым;

■ упадаць у апатыю, дэпрэсію;

■ ужываць лекі, алкаголь, наркотыкі;

■ праз псіхасаматыку (цела пачынае рэальна хварэць);

■ праз гнеў на іншых: на Бога, на супрацьлеглы пол і г.д.;

■ займаць пазіцыю суворага, жорсткага чалавека і інш.

Як бачым, спосабы бываюць разнастайныя і наступствы таксама розныя, часам сумныя і небяспечныя.

Каб канструктыўна даць рады з віной, гэта значыцца, каб эмоцыя не прынесла за сабой хваробу, боль, горыч, разрыў стасункаў, а мела аздараўляльнае значэнне, прапаную звярнуцца да наступных спосабаў:

● прызнаць РЭАЛЬНУЮ віну, выразіць гэтую віну ў АДЭКВАТНЫМ для сітуацыі памеры;

● ацаніць свой уклад у нанесенай шкодзе, прыняць АДКАЗНАСЦЬ толькі за СВАЮ частку (гэта важная абарона ад адчування пастаяннай бездапаможнасці ды пошуку вінаватых вакол);

● прызнаць тую страту, якую ўчынілі, перажыць, перагараваць гэтыя наступствы;

● змірыцца.

Няпроста? Магчыма... Але варта падумаць, ці вінавачу я сябе за тое, што не мог (не магла) учыніць ці змяніць? Трэба падумаць, якія спосабы абыходжання з віной мы маем у сваім арсенале – паталагічныя ці канструктыўныя? Ці не перашкаджае наша віна будаваць жывыя лёгкія стасункі?

Зычу вам шчырых адказаў! Дзякуй за ўвагу!

# Мои года – моё богатство. Живем активно в любом возрасте

**Недавно на остановке общественного транспорта я стала свидетелем того, как три достаточно пожилые женщины (на вид им было около 70 лет) очень активно, весело, я бы даже сказала с задором, обсуждали, как они интересно и, замечу, активно проведут день, гуляя по городу и наслаждаясь прекрасной осенью.**

■ **Марина Ткач**, *магистр психологии*



Они уехали, а я, находясь под впечатлением от этих очаровательных женщин, решила поговорить сегодня о том, как правильно относиться к своему возрасту.

Зрелость и старость – это неизбежные возрастные этапы в жизни каждого человека. К сожалению, мы не можем отказаться от них, не можем остановить время, да и стоит ли?

Конечно, можно следить за своей внешностью, пользоваться различными косметическими средствами (благо, эта индустрия не стоит на месте), прилагать массу усилий, чтобы внешняя оболочка была в порядке, но в результате всё равно будем испытывать недовольство своим возрастом. И дело здесь во внутренней установке, чаще всего негативной, относительно возраста.

Итак, как изменить ситуацию?

Главное, понять, что принять свой возраст – значит перестать навязчиво о нём думать. Отпустите ситуацию. Прекратите вести подсчёт в уме своих лет (мне уже тридцать, сорок, шестьдесят и т.д.). Лучше подумайте, чем наполнить этот возраст (увлечения, интересы, любая деятельность, которой хочется посвятить время). А может, она уже наполнена положительными эмоциями и яркими впечатлениями? Помните, что ваш возраст не менее беден на события, чем молодость.

Не ставьте на себе крест. В нашем обществе издавна сложились некие стереотипы относительно возраста. Мол, чем выше возраст, тем больше ограничений возникает. Поэтому будьте вне этих рамок. Никогда не поздно начать делать что-то, на что не хватило сил, опыта и времени в молодости или начать жить так, как вам хочется.

Меньше ворчите. Осуществляйте свои мечты, исполняйте желания, ставьте перед собой цели. Всё это послужит, с одной стороны, поводом к активности, а не сидению дома или, что ещё хуже, в поликлинике, с другой, это, безусловно, даст ощущение полноты жизни.

Возраст сам по себе не является ни достоинством, ни недостатком. Прожитый год, например, делает вас старше, но вместе с тем он делает вас опытнее, мудрее, стабильнее и свободнее. Именно на это надо ориентироваться, когда вас посещают пессимистические мысли по поводу возраста и старости.

Не стоит с упорством гнаться за внешней красотой, всё равно потерпите поражение в этой гонке. Лучше позаботьтесь о "красоте" души через свои поступки, мысли, жизненные позиции.

Это далеко не весь список того, что можно делать, чтобы не чувствовать себя на обочине жизни. Я дала лишь толчок, а вы можете сами продолжить его. Поверьте, если захотите, вы сможете это сделать!

Разумеется, моментально изменить отношение к своему возрасту не получится, так как и формировалось оно длительно и тщательно под воздействием многих факторов. Но дорогу осилит идущий.

Помните, что зрелость и старость – это не катастрофа, это ещё один возрастной этап, новая ступенька в лестнице вашей жизни. "А возраст – это лишь то, что существует в наших мыслях и, если о нём не думать, – его и нет". Так говорил Марк Твен. Думаю, к нему стоит прислушаться.



# Святыя Місіі ў Ваўкалацкай парафіі



**Праходзілі яны з 30 верасня па 7 кастрычніка. Праводзілі іх айцы-рэдэмптарысты Анджэй Ядкоўскі і Валерый Мазюк.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

У апошні дзень місій, у нядзелю, 7 кастрычніка, каля касцёла ўсталявалі місійны крыж. Перад пачаткам святой Імшы вернікі разам са святарамі сабраліся перад уваходам у храм, дзе ляжаў крыж. Ён быў зроблены парафіянамі ў знак таго, што ў іх парафіі прайшлі Святыя Місіі.

Напачатку айцец Анджэй распавёў пра значэнне крыжа для хрысціяніна. "Калісьці гэта быў знак ганьбы, бо на іх укрыжоўвалі небяспечных злачынцаў, – адзначыў святар, – але Езус сваёй смерцю на крыжы, дзе Ён памёр за грахі людзей, зрабіў крыж сімвалам хрысціянства, тым сімвалам, якім мы павінны ганарыцца, а не саромецца".

Потым мужчыны ўзялі крыж на плечы, і ўсе разам – і святары, і хор, і вернікі – прайшлі працэсіяй вакол святыні. Як і належыць, мужчыны з крыжам на плячах узначальвалі гэтае шэсце. Па яго заканчэнні крыж паставілі на сваё пастаяннае месца, дзе ён будзе нагадваць пра тыя дні, што перажыла парафія падчас місій. Пробашч ксёндз Алег Півавар прымацаваў да крыжа памятную таблічку аб Святых Місіях.



І падчас працэсіі, і падчас устаноўкі місійнага крыжа вернікі высока трымалі ў руках свае крыжы ў памяць пра місіі. Айцец Анджэй адзначыў, што як хутка сёння парафіяне паставілі гэты крыж, які не такі і лёгкі. Таксама і іншыя справы, калі рабіць іх супольна і дружна, будуць хуткімі і лёгкімі. Трэба адзначыць, што ўрачыстай падзеі вельмі паспрыяла надвор'е, якое ў гэтую кастрычніцкую нядзелю выдалася проста цудоўным.

Пасля ўстаноўкі місійны крыж, а таксама крыжы ўсіх вернікаў асвяціў айцец Валерый. Потым святары і міністранты ўшанавалі крыж пацалункам, астатнія вернікі мелі магчымасць зрабіць гэта пасля заканчэння Імшы. Затым прысутныя на чале са святарамі і міністрантамі ўрачыста ўвайшлі ў храм. Пры гэтым усе спявалі "Езус Хрыстус – Пераможца, Пан Сусвету і Валадар!", а перад самым пачаткам набажэнства хор разам з вернікамі выканаў спеў "Хвала на вышынях Богу!"

Святую Імшу ўзначаліў пробашч парафіі ксёндз Алег Півавар, а слова да вернікаў прамовіў айцец Валерый Мазюк. У самым пачатку ён адзначыў, што за ўсю гісторыю за Хрыста і Яго веру загінула больш за 70 мільёнаў чалавек, з якіх ажно 45 тысяч – у XX стагоддзі. Мінулае стагоддзе можна з поўным правам назваць векам мучанікаў за веру.

Праўда, і ў нашым XXI стагоддзі сітуацыя ў лепшы бок не змянілася: штогод каля ста тысяч чалавек пралівае сваю кроў ха Хрыста. Толькі ў 2016 годзе за веру былі замучаныя і забітыя больш за 90 тысяч хрысціян.

– Дык няўжо гэтыя ўсе людзі, якія не выракліся сваёй веры, маглі памыляцца? – рытарычна спытаў айцец-рэдэмптарыст і задаў яшчэ адно пытанне: для чаго мы ўсе тут разам маліліся гэтыя восем дзён падчас місій? А рабілі мы гэта для таго, – працягнуў святар, – каб ніхто з нас ніколі ад Бога не адрокся, каб ніхто з нас не засумняваўся, што Бог ёсць. Каб у гэтым пераканацца, мала слухаць Божае Слова толькі сваім розумам, яго трэба слухаць сэрцам, усёй душой.

Далей святар коратка ўзгадаў пра падзеі, што адбываліся ў кожны з дзён місійнага тыдня. "Гэта вельмі добра, што зараз тут мы можам свабодна вызнаваць нашу веру, – падкрэсліў айцец Валерый, – але трэба памятаць, што так было незаўсёды і зараз так ёсць не ўсюды".

Айцец нагадаў словы Хрыста, якія Ён сказаў сваім вучням: "Ідзіце на ўвесь свет", каб прапаведаваць Яго вучэнне. "Але ў кожнага з вас ёсць свае сем'і, праца, іншыя абавязкі, – працягнуў далей святар, – то вы скажаце: гэта не наша справа прапаведаваць, хай гэтым займаюцца святары. Але ўвесь свет для кожнага з нас – гэта тое асяроддзе, дзе мы знаходзімся штодня. Гэта нашы сем'і, наша праца, наша вёска".

Далей айцец Валерый асобна звярнуўся да мужчын, жанчын, людзей старэйшага веку і моладзі, нагадаўшы, што ў кожнай групы вернікаў ёсць свая місія ў прапаведаванні Евангелля, і сваім штодзённым жыццём мы павінны паказваць, што мы хрысціяне і не саромеемся сваёй веры.

Напрыканцы гамiлii айцец асобна звярнуўся да ксяндза Алега, пробашча гэтай парафіі. "Вось гэта для цябе ўвесь свет, – сказаў місіянер, паказаўшы рукой на сабраных у храме вернікаў, – цябе Езус прыслаў сюды. Місіянеры едуць далей, а Хрыстос застаецца ў вашай парафіі. І гэтага Хрыста ты павінен тут прадстаўляць". Святар заклікаў ксяндза Алега быць бацькам для сваіх парафіянаў, а парафіянаў быць добрымі дзецьмі і ставіцца да святара як да свайго таты.

На заканчэнне Імшы Валянціна Янковіч і Антаніна Бабарыка ад імя ўсёй парафіі падзякавалі айцам-рэдэмптарыстам за тыя восем дзён, што вернікі перажылі разам з місіянерамі, і ўручылі ім кветкі і падарункі. У сваю чаргу айцец Анджэй падзякаваў ваўкалацкім парафіянам і ксяндзу Алегу за цёплы і сардэчны прыём.

Трэба адзначыць, што апошнія місіі ў гэтай парафіі былі ажно ў трыццатых гадах мінулага стагоддзя. Правесці іх пасля не было магчымасці, бо наступілі змрочныя часы ваяўнічага атэізму. Праўда, нягледзячы на пераслед, вернікі ў Ваўкалаце адстаялі сваю святыню і не далі яе зачыніць. І зараз тут моцная вера, у чым маглі пераканацца місіянеры, якія паабяцалі прыехаць сюды ў наступным годзе на аднаўленне місій.

Айцы перадалі пробашчу стулы і ключ ад святыні, якія яны атрымалі ў пачатку місій як сімвал улады ў парафіі. Цяпер улада зноў перайшла да пробашча.

А закончылася Імша ўрачыстым благаслаўленнем крыжамі, якое місіянеры разам з пробашчам удзялілі вернікам парафіі Святога Яна Хрысціцеля ў Ваўкалаце. А ўжо пасля выхаду з храма кожны меў магчымасць падысці і ўшанаваць місійны крыж.



## Айцец Анджэй Ядкоўскі:

# “Я там адчуваў сябе больш бяспечна,

**Айцец-рэдэмптарыст Анджэй Ядкоўскі нядаўна наведаў Ліван, дзе пабыў у мясцінах, звязаных са святым Шарбелем. Мы сустрэліся з айцом Анджэем у Ваўкалаце, дзе ён разам з айцом Валерыем Мазюком праводзіў Святыя Місіі, каб паразмаўляць пра яго пілігрымку ў Ліван.**



**– Шмат хто, у тым ліку і я, лічыў Ліван арабскай краінай, дзе жывуць адны мусульмане. Адкуль там узяліся хрысціянскія святыя?**

– Гэта не зусім так. Зараз у Ліване жыве 40% хрысціян, а да Першай сусветнай вайны іх было 90%. На жаль, цяпер іх працэнт зменшыўся, але тым не менш Ліван у пэўнай ступені можна лічыць краінай хрысціянскай.

**– Скажыце, калі ласка, а чаму Вы вырашылі паехаць у Ліван?**

– Я чуў і раней пра святога Шарбеля[*]. І чуў таксама пра тыя цуды, праз якія і сёння Бог дзейнічае. Таму і захацелася пабыць у гэтым святым месцы. Мне было вядома, што Ліван – гэта тая тэрыторыя, дзе хадзіў сам Пан Езус. Таксама ў адным з ліванскіх гарадоў адбылося першае спатканне святых Пятра і Паўла. На месцы іх сустрэчы зараз стаіць сабор Грэцкай Праваслаўнай Царквы.

Таму мне заўсёды хацелася паехаць туды, хоць мяне і адгаворвалі. Мне казалі, што там вайна, што там небяспечна, але мне ўсё адно хацелася. І Бог дзейнічае так, што я паехаў з групай як духоўны айцец, як святар. Вось так Бог пакіраваў, што я там змог быць.

**– У чым адметнасць святога Шарбеля для Каталіцкага Касцёла?**

– Святы Шарбель адметны перш за ўсё тым, што ён прысвяціў сваё жыццё Богу. Ён быў святаром мараніцкім. Мараніцкі касцёл[**] – гэта касцёл, які заўсёды быў у лучнасці з Рыма-Каталіцкім Касцёлам, ніколі ад яго не адыходзіў, ён толькі мае сваю візантыйскую літургію. І вось гэты мараніцкі святар, манах, ужо ад дзяцінства хацеў служыць Богу. Ён выхоўваўся ў пабожнай сям'і, якая была беднай, бо гэтыя людзі жылі ў гарах. Яго бацькі былі моцнай веры, і ён, гледзячы на бацькоў, на іх пабожнасць, захацеў быць манахам. І калі ён падрос, то пайшоў у кляштар маранітаў у горадзе Аная. Гэты горад знаходзіцца ў гарах, і Шарбель пайшоў у горны кляштар. Але ён хацеў наогул адасобіцца ад гэтага свету, ён хацеў жыць у пустыні, каб аднаму аддавацца малітве і працы.

Такая пустыня была недзе за два кіламетры ад кляштара, і ён больш за дваццаць гадоў пражыў у ёй, дзе разам з іншымі манахамі-пустэльнікамі маліўся і працаваў.

Спаў толькі чатыры гадзіны, і яму гэтага хапала. Еў толькі садавіну і гародніну, не еў мяса. Не таму, што лічыў мяса кепскім, ён проста жыў у такой своеасаблівай пакуце, каб усё аддаць Богу. І еў толькі адзін раз у суткі.

Звычайны чалавек ужо б, напэўна, памёр бы ад такіх умоваў, а ён мала еў, шмат працаваў і шмат маліўся. Асаблівай любоўю ў Шарбеля карысталася Марыя. Усё сваё жыццё ён прысвяціў, каб служыць Богу і людзям. У тым сэнсе, што ён маліўся за людзей.

Яго позірк заўсёды быў скіраваны ўніз, на зямлю, як яго і паказваюць на выявах, каб яму нішто не перашкаджала быць з Богам. Шмат кансэкраваных асобаў так жыве, але Бог яго выбраў сярод іншых за тое, што ён адказаў Богу на Яго пакліканне.

У той жа час Шарбель быў вельмі простым чалавекам. Яго святасць – гэта ва ўсім давяраць Богу і быць простым у сваёй штодзённасці. Вось такім быў святы Шарбель. І калі ён памёр, то яго пахавалі як звычайнага манаха, разам з іншымі братамі. І людзі, што жылі непадалёк, ноччу бачылі над яго магілай своеасаблівае святло. Святло, што выпраменьвалася ўгору ад яго магілы. Манахі гэтага не бачылі, бо кляштар знаходзіўся з іншага боку. А простыя людзі ўбачылі і спыталі ў братоў, што ў вас там дзеецца?

Вернікі разумелі, што Шарбель быў незвычайным чалавекам, што падабаўся Богу, і яны пачалі прыходзіць маліцца да яго. Потым манахі заўважылі, што з яго цела выцякае вадкасць – кроў і вада. І калі цела Шарбеля пераносілі ў іншую магілу, то заўважылі, што хоць і прайшло даволі шмат часу, яно не было знішчанае. Як у жывога чалавека, была мяккая скура. Проста, як чалавек нібыта спіць…

І сталі здарацца цуды: калі хтосьці прыходзіў, дакранаўся да магілы, то атрымліваў аздараўленне. Такіх выпадкаў штораз станавілася болей, таму і быў распачаты працэс беатыфікацыі.

**– Я чытаў, што і цяпер з цела Шарбеля выцякае вадкасць, як Вы кажаце, плын. Гэта сапраўды так?**

– Беатыфікацыя адбылася ў 1965 годзе, і да гэтага часу з цела Шарбеля выцякаў плын. Але пасля гэтага ён перастаў цячы. Часам бывае, што гіды, якія суправаджаюць пілігрымаў або проста праводзяць экскурсіі, кажуць людзям няпраўду: маўляў, ён і зараз выцякае. Але насамрэч ад 1965 года нічога не выцякае.

**– Тым не менш людзі туды едуць?**

– У Анаю вельмі шмат людзей прыязджае. Увявіце сабе, сама дзяржава Ліван мае чатыры мільёны жыхароў, а за год да святога Шарбеля прыязджае больш за чатыры мільёны пілігрымаў. Гэта вельмі шмат!

І кожны 22-і дзень месяца туды прыязджае шмат пілігрымаў, ідзе працэсія з таго месца, дзе святы Шарбель жыў у пустыні, да касцёла, туды, дзе ён пахаваны. Мы таксама ўдзельнічалі ў такой працэсіі, было там некалькі тысяч вернікаў. І што цікава, відаць, што гэта шчырая малітва. Ніхто там не размаўляе падчас працэсіі, толькі шчыра моляцца. Нават дзеткі малыя. Калі я ішоў у працэсіі, то бачыў, якія яны спакойныя, радасныя.

У нас, бывае, штурхне хто каго ў працэсіі, дык чалавек так са злосцю гляне… А там усміхнецца табе, такія адкрытыя людзі, моляцца, спяваюць…

У мараніцкай літургіі вельмі шмат спеваў, гэта сапраўды надзвычай прыгожа! Шмат, вельмі шмат людзей! Я бачыў многа маладых мужчын, дзяўчат, яны вельмі шчыра маліліся.

**– А як да гэтага ставіцца мусульманскае насельніцтва?**

– Мусульман таксама шмат прыходзіць. Не ўсе, вядома. Але прыходзяць, каб пабыць у гэтым святым месцы. ⇨





# чым у сённяшняй Еўропе!”

⇨ Бо шмат хто з іх таксама лічыць Шарбеля святым.

Трэба адзначыць, што вакол Анаі жывуць хрысціяне, вёскі, гарады там усе хрысціянскія, там ля дарог шмат крыжоў стаіць, фігур святога Шарбеля. І здалёк бачна, як едзеш па аўтастрадзе (а яна там адна): стаіць вялікая фігура Езуса Адкупіцеля, там Маці Божая, высокія фігуры па некалькі метраў!

**– Чаму хрысціяне з мусульманамі колькі стагоддзяў мірна жылі, а зараз між імі пастаянныя канфлікты?**

– Яны не жылі так ужо мірна, бо заўсёды паміж імі нейкія канфлікты здараліся. Але сённяшні свет – свет медыйны, усё гэта востра адчуваецца... А яшчэ, на маю думку, сучасныя хрысціяне больш сталі пераследавацца, бо д'ябал узмацніў свой уплыў на людзей Хрыста, паколькі разумее, што яго час сканчаецца на гэтай зямлі. І таму ён рознымі спосабамі стараецца нішчыць людзей, якія вераць у Хрыста.

**– На Вашу думку, варта простым вернікам наведаць Ліван?**

– Вядома, трэба! Я вярнуўся з гэтай пілігрымкі пад вялікім уражаннем. Адтуль паходзіць шмат святых: гэта і святы Шарбель, і святая Рафка, што апякуецца анкалагічнымі хворымі. Да яе прыязджае і моліцца таксама шмат людзей. Таксама і іншыя святыя, што паходзяць з гэтых мясцін. Але апроч святых, гэта таксама землі, дзе хадзіў Сам Пан Езус, дзе Маці Божая Яго чакала, дзе сустрэліся святы Пётр са святым Паўлам. Таму гэта шанец пахадзіць па тых землях, дзе хадзіў Езус Хрыстус. Варта ехаць! Варта!

Шмат хто баіцца, што там вайна, што там небяспечна. Вядома, я там бачыў і войска, і блок-пасты на выездах з гарадоў. Але я там адчуваў сябе больш бяспечна, чым у сённяшняй Еўропе з яе тэрарызмам. А там мне было спакойна, якойсьці небяспекі я не адчуваў. Мы спакойна маглі маліцца, мы адчувалі сябе хрысціянамі, не баючыся пацярпець за гэта. Таму я раю тым, хто мае такую магчымасць, з'ездзіць туды, каб пабыць там.

**– А ёсць якія візавыя праблемы?**



– Тут ёсць нюансы. Бо калі паехаць найперш у Ліван, то ў Ізраіль потым пусцяць. Пакруцяць носам, але пусцяць. Але калі вы перш паедзеце ў Ізраіль, а потым у Ліван, то вас туды не пусцяць.

Хаця зараз Ізраіль пячаткі ў пашпарты не ставіць: яны даюць уязную асобную картку, а потым выязную. Таму галоўнае – самому не прагаварыцца, што быў у Ізраілі.

**– Што дае верніку такая пілігрымка?**

– Чалавек праз наведванне святых месцаў, дзе жылі святыя, дзе знаходзяцца іх санктуарыі, задумваецца над сваім жыццём, пераасэнсоўвае свае каштоўнасці і вяртаецца адтуль узбагачаным духоўна. Я магу меркаваць па сабе і па тых людзях, якіх там бачыў.

Толькі са святым Шарбелем звязана звыш дваццаці тысяч задакументаваных цудаў. Людзі вераць, моляцца, прыязджаюць сюды і праз яго заступніцтва ад Бога атрымліваюць аздараўленне душы і цела. Таму варта наведваць кожнае святое месца: і тыя, што побач, і тыя, што далёка. Гэта ўсім раю.

**– Якое адчуванне было ў Вас, калі Вы ішлі па тых мясцінах, дзе дзве тысячы гадоў хадзіў Сам Пан Езус?**

– Па-першае, адчуваецца такая ўзнёсласць!.. Таму, што тут хадзіў Хрыстус, Маці Божая Яго тут чакала, што тут была Іх сустрэча, што тут хадзілі святыя. Узнёсласць, радасць і яшчэ больша давер да Бога! Праз тое, што Ён знаходзіцца на гэтай святой зямлі. І я бачыў, як гэта іншыя людзі перажываюць.

Таму яшчэ раз усіх заклікаю наведаць біблейскія мясціны, бо ў наш час зрабіць гэта не так ужо і складана.

*Гутарылі **Зміцер Лупач** і **Леанід Юрык***
*Фота **а. Анджэй Ядкоўскі***

*Мараніцкі Касцёл – адзін з самых старажытных Усходніх каталіцкіх касцёлаў, што мае статус патрыярхата. Большасць парафій знаходзяцца ў Ліване, а таксама ў Сірыі і на Кіпры. У выніку грамадзянскай вайны 1975 года каля мільёна маранітаў пакінула Ліван. Зараз мараніцкія парафіі ёсць у ЗША, Канадзе і ў Аўстраліі. Усяго ў свеце лічыцца больш за 3 мільёны маранітаў.

**Святы Шарбель (8.051828 — 24.12.1898) — мараніцкі святар і манах.





# Імёны Старога Запавету

## Тэст на праверку Біблійных ведаў

1 Імя першага чалавека на зямлі?



А. Ной
Б. Майсей
В. Адам

2 Што азначае імя “Майсей”?



А. Занесены ветрам
Б. Узяты з вады
В. Які бяжыць па хвалях

3 Каго праглынула велізарная рыба?



А. Езуса
Б. Ёну
В. Абрагама

4 Каго Бог паклікаў, каб вывесці народ з Егіпта?



А. Аарона
Б. Майсея
В. Абрагама

5 Імя чалавека, які забіў гіганта Галіяфа?



А. Давід
Б. Саул
В. Саламон

6 Хто быў першым царом Ізраіля?



А. Саул
Б. Саламон
В. Мелхісэдэк

7 Хто быў бацькам Ісаака?



**А.** Абрагам
**Б.** Якуб
**В.** Яфет

8 Хто ўзнёсся на Неба на вогненнай калясніцы?



**А.** Ілья
**Б.** Майсей
**В.** Енах

***Падрыхтавала Вікторыя Колзун***

**Правільныя адказы на старонцы 16**

# Каляндар на лістапад



**Лістапад – гэта цудоўная магчымасць атуліць малітвай не толькі памерлых родных і блізкіх, але і ўсіх тых, хто адышоў да дому Айца. Калі мы верым, што разам са смерцю жыццё чалавека не заканчыцца, а толькі зменіцца, то павінны таксама ўсведамляць, наколькі вялікая наша адказнасць за памерлых. Мы ўжо не можам сустрэцца з імі фізічна, але маем магчымасць спаткацца ў знаку веры – у малітве, у святых Сакрамантах, ва ўчынках міласэрнасці для бліжніх.**

**1 лістапада – урачыстасць Усіх Святых.**

У гэты дзень успамінаюць не толькі тых, хто быў афіцыйна абвешчаны святым або благаслаўлёным, але і невядомых нам святых. Можна сказаць, што першага лістапада ўшаноўваюцца адразу ўсе тыя, хто здабыў вечнае шчасце. Карані дня Усіх Святых ідуць у IV стагоддзе. Тады ў Антыёхіі ўшаноўвалі памяць шматлікіх пакутнікаў, імёны якіх не былі вядомыя. У 610 годзе, калі Папа Баніфацый IV атрымаў ад імператара Рымскай Імперыі старажытную язычніцкую святыню Пантэон, туды былі перанесены многія рэліквіі пакутнікаў. І гэты будынак асвяцілі як храм Маці Божай Пакутнікаў. З датай згаданай падзеі было звязана рымскае свята Усіх Святых. Спачатку ўшаноўваліся толькі Дзева Марыя і тыя, хто памёр за веру. У наступныя стагоддзі ўзнік культ "вызнаўцаў" – духоўных пакутнікаў. Таксама як пакутнік сваёю смерцю станавіўся сведкам Хрыста, так вызнаўца даваў сведчанне сваім жыццём. Гэтая ўрачыстасць з'яўляецца абавязковай.

**На лістапад прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў і біскупаў:**

**5 лістапада** – дзень нараджэння адзначае **кс. Юрый Барок** *(Расоны)*; імяніны адзначае **кс. Славамір Самковіч** *(Пагошча)*;

**6 лістапада** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Алег Півавар** *(Ваўкалата)*, **а. Андрэй Бочар MS** *(Далёкія)*;

**10 лістапада** – імяніны адзначае **кс. Леанід Мозгель** *(Павяцце)*;

**11 лістапада** – дзень святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Сяргей Сурыновіч** *(Друя)*, **кс. Славамір Самковіч** *(Пагошча)*;

**12 лістапада** – імяніны адзначаюць **а. Віталь Сапега OP** *(Віцебск)*; дзень святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Валерый Орсік** *(Орша)*, **кс. Алег Півавар** *(Ваўкалата)*;

**13 лістапада** – дзень нараджэння адзначаюць **а. Чэслаў Куцмеж SCJ** *(Паставы)*, **а. Станіслаў Мжыглуд SDS** *(Браслаў)*;

**14 лістапада** – дзень нараджэння адзначае **а. Тадэвуш Кавальскі OFMCap** *(Докшыцы, Бягомль)*;

**19 лістапада** – дзень нараджэння адзначае **кс. Генадзь Ляўкоў** *(Дрысвяты)*;

**20 лістапада** – дзень біскупскай сакры адзначае біскуп на пенсіі *Уладзіслаў Блін*;

**23 лістапада** – імяніны адзначае **а. Кляменцій Верт SJ** *(Віцебск)*;

**30 лістапада** – імяніны адзначаюць **кс. Андрэй Вашчук SDS** *(Віцебск)*, **ксёндз-канонік Андрэй Аніскевіч**, дырэктар Карытас *(Віцебск)*, **а. Андрэй Бочар MS** *(Далёкія)*, **а. Андрэй Букштан OFMCap** *(Докшыцы)*, **кс. Андрэй Бульчак** *(Паставы)*, **кс. Андрэй Кулік** *(Дзеркаўшчына)*, **а. Анджэй Юхневіч OMI** *(Шуміліна)*, **кс. Яўген Міхайлаў** *(Лучай)*.

*Падрыхтаваў*
***Зміцер Лупач***

**2 лістапада – успамін усіх памерлых.**

У гэты дзень можна атрымаць поўны адпуст тым, хто наведае могілкі, а таксама выканае адпаведныя ўмовы: трэба быць пасля споведзі, прыняць Святую Камунію і памаліцца ў інтэнцыі святога Айца.

**12 лістапада – урачыстасць святога Язафата Кунцэвіча, апекуна Віцебскай дыяцэзіі.**



Знакаміты ўніяцкі дзеяч паходзіў з Уладзіміра Валынскага, з мяшчанскай сям'і. Нарадзіўся каля 1580 года. Юнаком па жаданні бацькоў накіраваўся ў Вільню, каб авалодаць прафесіяй купца. У Вільні ён сутыкнуўся з руплівымі духоўнікамі і ўключыўся ў інтэнсіўнае жыццё і справы маладой уніі. У 1604 годзе прыняў базыліянскі габіт, а пазней – пасвячэнні пераддыяканата і дыяканата. Адначасова распачаў тэалагічнае служэнне, а ў 1609 годзе прыняў святарскія пасвячэнні і быў прызначаны апекуном навіцыяту. Праз сваю старанасць атрымаў мянушку "душахват". Настаяцелі давяралі яму новыя, усё больш адказныя пасады і працу. У 1613 годзе ён быў прызначаны архімандрытам у касцёле Найсвяцейшай Тройцы ў Вільні, а ў 1617-ым атрымаў прызначэнне на месца полацкага каад'ютара. 12 лістапада 1623 года быў забіты ў часе барацьбы паміж абаронцамі і праціўнікамі ўніі. Цела арцыбіскупа ўтапілі ў Дзвіне. Беатыфікацыю здзейсніў Папа Урбан VIII у 1642 г., а кананізацыю – Папа Пій XI у 1867 г. Рэліквіі, знойдзеныя ў 1916 годзе ў Белай Падляскай, былі перавезеныя ў Вену, а потым у базыліку св. Пятра ў Рыме, дзе і захоўваюцца.

**16 лістапада – успамін Маці Божай Вастрабрамскай.**

У кожнай хрысціянскай краіне ёсць абраз Маці Божай, які з'яўляецца сімвалам абароны і заступніцтва народа. Вось і ў Літве ёсць ікона Маці Божай, што ўшаноўваецца каталікамі і праваслаўнымі з асаблівай і глыбокай павагай. Гэты абраз знаходзіцца ў капліцы Вострай Брамы ў



Вільні. Тут у Панны Марыі шукаюць суцяшэння не толькі мясцовыя жыхары, але і пілігрымы з многіх краін. Урачысты акт каранацыі абраза паводле дэкрэта Папы Пія XI быў здзейснены 2 ліпеня 1927 года Мітрапалітам Варшаўскім кардыналам Аляксандрам Какоўскім у прысутнасці ўсяго польскага епіскапату, Юзафа Пілсудскага і Прэзідэнта Польшчы Ігнацыя Масціцкага перад катэдральным саборам пад праліўным дажджом. Пасля каранацыі ў 1928 годзе абраз быў змешчаны ў капліцы ў адмысловым металічным кантэйнеры, які засцерагае яго ад пажараў і злодзеяў. Маці Міласэрнасці з Вострай Брамы ў Вільні шануецца ўсімі хрысціянамі як заступніца Беларусі і Літвы. Святочным днём ушанавання іконы лічыцца 16 лістапада. Штогод у перыяд святочнага тыдня здзяйсняюць паломніцтвы ў Вільню на свята Маці Божай Вастрабрамскай тысячы пілігрымаў. Яе абраз ёсць у шматлікіх беларускіх храмах – як каталіцкіх, так і праваслаўных.

**21 лістапада – Успамін Ахвяравання Найсвяцейшай Панны Марыі.**

**25 лістапада – урачыстасць Хрыста Валадара Сусвету.**



Гэтая ўрачыстасць бярэ свой пачатак у 1925 годзе, калі Папа Пій XI энцыклікай "Quas primas" 11 снежня абвясціў Хрыста Валадаром Сусвету і зацвердзіў святкаванне ўрачыстасці на апошнюю нядзелю літургічнага года. Гэта былі асаблівыя часы, калі зямныя каралі трацілі ўладу, а людзі яе здабывалі. У такім становішчы Папа хацеў скіраваць сэрца чалавека да сапраўдных каштоўнасцяў і сканцэнтраваць яго на высакародных ідэалах. Ён нагадваў, што толькі Хрыстос – Альфа і Амега, пачатак і канец усяго, падкрэсліваючы іншасць Валадарства Хрыста. Учора і сёння абвяшчаецца тая ж самая праўда пра тое, што Хрыстос – Валадар Любові. Ён хоча валадарыць у сэрцах людзей. Хоча, каб у свеце запанавалі Божы парадак, Божая праўда, справядлівасць і любоў.

**30 лістапада – свята св. Андрэя, апостала.**



Паходзіў з Бэтсаіды (Галілея). Быў братам Сымона-Пятра. Абодва яны былі рыбакамі і жылі ў Капернауме, на беразе Генісарэцкага возера. Згодна з Евангеллем паводле св. Яна, Андрэй спачатку належаў да супольнасці вучняў св. Яна Хрысціцеля, а потым па парадзе свайго настаўніка пайшоў за Езусам, узяўшы з сабою брата. Такім чынам Андрэй стаў першым вучнем Хрыста, і таму ва ўсходняй традыцыі яго называюць "Першазваным". 30 лістапада 60 года ў грэцкім горадзе Патрасе ён прыняў мучаніцкую смерць праз укрыжаванне: апостал быў прыбіты да крыжа ў форме літары "Х" – т. зв. крыжа св. Андрэя. У Сярэднявеччы яго рэліквіі зрабілі ў Амальфі, у Італію, і там спачываюць у катэдры св. Андрэя да сённяшняга дня, атачаныя вялікай пашанай. Пазней галава святога была перавезеная ў Рым, але ў 1964 г. Папа Павел VI вярнуў каштоўную рэліквію ў Патрас.

Свята св. Андрэя з'яўляецца важнай датай у народным календары, з якой звязана шмат традыцый (напр., Андрэйкі). Святы – апякун рыбакоў, плыўцоў, добрага сужэнства і дзяцей. Яго заступніцтва просяць ад артрыту і сутаргаў.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

# Начная Адарацыя

*"Пахвалёны Езус Хрыстус! Мне вельмі неабходна атрымаць адказ на пытанне: ці абавязкова павінен знаходзіцца святар у касцёле падчас Адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту? Напрыклад, пры правядзенні начной Адарацыі? Ці мог бы святар зрабіць выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту, напрыклад, а 21.00, а затым прыйсці раніцай, скажам, а 6.00 гадзіне? Вернікі ўвесь гэты час маліліся б у цішыні самі. Мне святар сказаў, што так нельга. А я ведаю некалькі такіх выпадкаў. Калі ласка, адкажыце, як правільна?"*
*Аліцыя*

**На пытанне адказвае айцец Аркадзь Куляха OCD:**

– Паважаная Аліцыя! Вашае пытанне закранае таямніцу Найсвяцейшай Эўхарыстыі, таму яно вельмі глыбокае і далёка не пра практычныя аспекты адарацыі, але пра веру і любоў да Бога. Дзякуй! Маю надзею, што змагу дапамагчы правільна зразумець веліч гэтай таямніцы.



## Крыніца святасці

Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту – гэта найперш сустрэча з Езусам Хрыстом, Які прысутнічае ў супольнасці вернікаў у сваім Целе і Крыві, дае духоўнае сілкаванне і вядзе да збаўлення. Таямніца Эўхарыстыі "з'яўляецца вытокам кожнай формы святасці, і кожны з нас пакліканы да паўнаты жыцця ў Духу Святым. Колькі святых учынілі сапраўдным уласнае жыццё дзякуючы сваёй эўхарыстычнай пабожнасці! Ад св. Ігнацыя з Антыёхіі да св. Аўгустына, ад св. Антонія, абата, да св. Бэнэдыкта, ад св. Францішка Асізскага да св. Тамаша Аквінскага, ад св. Клары з Асізі да св. Кацярыны Сіенскай, ад св. Пасхаля Байлона да св. Пятра Юліяна Эймарда, ад св. Альфонса Марыі Лігоры да блаславёнага Караля дэ Фуко, ад св. Яна Марыі Віянэя да св. Тэрэзы з Лізьё, ад св. Піа з П'етрэльчыны да блаславёнай Тэрэзы з Калькуты, ад блаславёнага Пэрджорджыя Фрасаці да блаславёнага Івана Мерца. Згаданыя толькі некаторыя з вялікага мноства, чыя святасць заўсёды знаходзіла свой цэнтр у сакраманце Эўхарыстыі" *(Бэнэдыкт XVI, Апостальская адгартацыя Sacramentum Caritatis, 94).*

## Развіццё эўхарыстычнай цэлебрацыі

Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту – гэта пакланенне вернікаў перад таямніцай вечнага і міласэрнага Бога, Які Сам выходзіць насустрач і прагне з'яднацца з чалавекам. Касцёл разумее, што пакланенне Найсвяцейшаму Сакраманту ёсць відавочным развіццём эўхарыстычнай цэлебрацыі, якая сама ў сабе з'яўляецца найвышэйшым актам адарацыі з боку вернікаў *(Пар. тамсама, 66)*. Трэба памятаць, што ўдзел у святой Імшы і прыняцце з глыбокай пашанай Святой Камуніі вынікае з веры ў рэальную прысутнасць Езуса Хрыста ў Святых Постацях і выказвае знак пакланення Збаўцу.

Існуюць розныя формы ўшанавання Найсвяцейшага Сакраманту, якія вынікаюць з эўхарыстычнага культу. Пра іх важнасць пісаў між іншым святы Ян Павел II у энцыкліцы Ecclesia de Eucharistia, якую варта прачытаць ды паразважаць. Вялікую вартасць мае, напрыклад, падрыхтоўка перад святой Імшой, калі вернікі ці то пад кіраўніцтвам святара, ці самастойна трываюць у малітве, углядваючыся ў табернакулюм, дзе захоўваецца Найсвяцейшы Сакрамант. Такая падрыхтоўка, практыкаваная ў шматлікіх святынях нашай краіны, дапамагае больш свядома і поўна ўдзельнічаць у цэлебрацыі Эўхарыстычнай ахвяры Імшы, якую святы Ян Павел, паводле Душпастырскай Канстытуцыі II Ватыканскага Сабору пра Касцёл у сучасным свеце Lumen gentium *(нумар 11)*, назваў крыніцай і вяршыняй усяго хрысціянскага жыцця *(Пар. Ян Павел II, энцыкліцы Ecclesia de Eucharistia, 1)*. Некаторыя вернікі трываюць у малітве без слоў, іншыя аддаюць перавагу падрыхтаваным тэкстам або карыстаюцца малітоўнікамі. Хто знаходзіцца ў такой падрыхтоўцы да святой Імшы, той заўважае вялікія плады Божай ласкі ў сваім жыцці і больш свядома ўдзельнічае ў самой Эўхарыстыі.

## Пан заўсёды чакае

Папа Францішак заахвочвае, каб дзверы святынь былі адчыненымі для малітвы вернікаў. Падобна рабілі і папярэднікі цяперашняга Пантыфіка. Абвешчаны святым 14 кастрычніка 2018 года Папа Павел VI у энцыкліцы Mysterium fidei нагадваў, каб вернікі не занядбоўвалі наведвання Найсвяцейшага Сакраманту на працягу дня. На жаль, з розных прычынаў не ўсе парафіяльныя супольнасці могуць пакінуць адчыненымі дзверы святыні. Некаторыя пробашчы імкнуцца нейкім чынам даць вернікам магчымасць наведваць Езуса ў касцёле. Правераным спосабам з'яўляюцца краты ў дзвярах і кленчнік перад імі, дзякуючы чаму вернікі атрымліваюць магчымасць схіліць калені і памаліцца, гледзячы на табернакулюм. Незалежна ад умоў варта памятаць, што і праз замкнёныя дзверы Езус выслухоўвае малітвы, таму трэба падтрымліваць і развіваць даўнюю практыку пакланення перад святыняй праз зняцце шапкі ці кароткую малітву. Прыпамінаецца мне святой памяці ксёндз-прэлат Юзаф Булька, які заўсёды заахвочваў наведвальнікаў Мосара пайсці ў касцёл "да Пана Езуса ў Найсвяцейшым Сакраманце"...

## Святары і вернікі чэрпаюць сілы з Эўхарыстыі

Асаблівай формай пакланення Богу з'яўляецца адарацыя праўдзівага Цела і Крыві нашага Пана Езуса Хрыста ў часе выстаўлення Найсвяцейшага Сакраманту. Касцёл заўсёды разумеў вартасць гэтай формы ўшанавання Бога, таму заахвочвае святароў, каб сваім уласным сведчаннем вялі вернікаў да эўхарыстычнага культу *(Пар. Ян Павел II, энцыкліка Ecclesia de Eucharistia, 25)*. Сведчанне з боку святароў – гэта не столькі абавязак, але вынік нашага асабістага духоўнага жыцця, напоўненага любоўю да Бога і бліжніх. Глыбока пра гэта кажуць айцы II Ватыканскага Сабору: "Прэзбітары павінны шукаць і старанна выпрошваць у Бога той дух сапраўднага пакланення, дзякуючы якому разам з дадучаным ім народам яны будуць цесна яднацца з Хрыстом, Пасярэднікам Новага Запавету, і таму як усыноўленыя дзеці ўсклікаць: "Абба, Ойча!" *(Рым 8, 15; Дэкрэт пра служэнне і жыццё прэзбітараў Presbyterorum ordinis, 18)*. Асабістае ўшанаванне Найсвяцейшай Эўхарыстыі дапамагае святарам правільна выконваць сваю паслугу, а калі святару спадарожнічаюць вернікі, то іх супольная малітва грунтуе таксама еднасць і паявлічае цноты ў супольнасці мясцовага Касцёла.

## Касцёл дбае пра Эўхарыстыю

Згодна з дакументамі Касцёла, якія датычаць зададзенага пытання, Найсвяцейшы Сакрамант можа быць выстаўлены для адарацыі ў прысутнасці вернікаў. Святар, адказны за захоўванне Найсвяцейшага Сакраманту, павінен быць упэўнены, што ў часе адарацыі будзе хтосьці з вернікаў, хоць адна асоба, бо нельга пакідаць выстаўлены Найсвяцейшы Сакрамант у пустым касцёле або капліцы. У Беларусі адарацыі адбываюцца ў шматлікіх парафіях рэгулярна: дзе штодня, дзе некалькі разоў на працягу тыдня або радзей. Пажадана, каб вернікі карысталіся гэтай магчымасцю і трывалі перад Панам.

Вялікую карысць маюць саракагадзінныя набажэнствы, якія на працягу трох дзён рыхтуюць супольнасць вернікаў да перажывання парафіяльнай адпустовай урачыстасці. У нашай краіне існуюць таксама каталіцкія рухі, групы або душпастырствы, якія імкнуцца да глыбейшай камуніі з Богам. Пажадана, каб сябры гэтых супольнасцяў уключаліся ў рытм літургічнага жыцця сваёй парафіі, аднак не заўсёды гэта магчыма. Пераважна яны маюць уласных душпастыраў, прызначаных кампетэнтнай касцельнай уладай. Такія групы часам арганізуюць начныя набажэнствы, чуванні ці сустрэчы, што ў сваю чаргу можа быць добрым спосабам для духоўнага развіцця тых, хто ўдзень заняты.

Прысутнасць святара падчас адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту неабавязковая, аднак да пробашча або рэктара належыць дбанне пра культ, захоўванне Найсвяцейшага Сакраманту, а таксама правядзенне набажэнства згодна з касцельнымі нормамі. Яго заданнем таксама з'яўляецца распазнанне сапраўднасці, матывацыі і мэты правядзення малітваў, у чым заўсёды дапамагае прынцып праўды і любові ў супольнасці, што ў сваю чаргу вызваляе ад эгаістычнага і інструментальнага падыходу да таямніцы Эўхарыстыі.

Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту – гэта крыніца сілы для многіх вернікаў. Прыпамінаецца малітоўная пастава перад табернакулюмам святой памяці кардынала Казіміра Свёнтка, чыя сто чацвёртая гадавіна нараджэння прыпадае на 21 кастрычніка 2018 г. Цішыня, далоні зведзеныя разам і моцна на іх абапіралася галава. Спакойны ззяннем радасці і глыбокай павагі твар – нібы ўжо ў небе, хоць яшчэ зямны, і ўсё цела нерухомае як адна брыла каштоўнай фігуры, што маўчаннем усклікае: будзь праслаўлены, Езу, жыццё маё!..

**Няхай будзе пахвалёны Найсвяцейшы Сакрамант – праўдзівае Цела і Кроў Пана нашага Езуса Хрыста!**



# Аліна Латыш: “Калі мы пра гэта не будзем памятаць, то мы будзем манкуртамі”

## У Паставах выйшла кніга пра гісторыю касцёла і парафіі ў Варапаеве

**Яна называецца “Сваціся імя Тваё…”, аўтар – Аліна Латыш.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

У кнізе распавядаецца пра драматычны лёс Касцёла ў Варапаеве – не толькі самога будынка, але і каталіцкай супольнасці. Асобныя раздзелы кнігі прысвечаныя святарам, што тут працавалі, сёстрам законным, будаўнікам, дзякуючы якім паўстаў сучасны будынак храма, спонсарам і шэфам, што дапамагалі ў будаўніцтве, моладзі парафіі. Расказваецца таксама пра святароў, што выйшлі з гэтай парафіі, прыводзяцца спісы ўсіх будаўнікоў касцёла.

Прэзентацыя кнігі адбылася ў суботу, 15 верасня. Тады ў храме сабраліся пробашч кс. Ежы Вільк, сябры касцельнага камітэту, а таксама тыя людзі, што будавалі гэту святыню. На жаль, далёка не ўсе змаглі прысутнічаць на сустрэчы: хтосьці праз хваробу, а шмат хто ўжо адышоў да Пана.

Сустрэча атрымалася вельмі цёплай, сямейнай. Распачалася яна супольнай малітвай у касцёле, а потым працягнулася на плябаніі. Аліна Латыш, аўтарка кнігі, расказала пра змест выдання, паказала цікавыя фотаздымкі, якія змешчаныя ў кніжцы, зачытала імёны і аповяды будаўнікоў, якія ўжо адышлі ў лепшы свет. Пасля гэтага кожны з удзельнікаў сустрэчы падзяліўся сваімі ўспамінамі пра ўзвядзенне храма, пра тыя цяжкасці і тыя радасці, што гэтаму спадарожнічалі.

На жаль, да патрэбнай даты сама кніга яшчэ не была гатовая. А можа, гэта было і да лепшага. Бо спадарыня Аліна мела адзіны асобнік, і ў гэтым заключалася інтрыга. І, відаць, таму ўдзельнікі імпрэзы і выглядалі больш уважлівымі і засяроджанымі. Усім было цікава патрымаць гэты асобнік у руках, пагартаць яго, паглядзець здымкі… Успомніць моманты будаўніцтва храма, якія ўжо сталі гісторыяй… І, вядома, у вачах гэтых людзей, у іх успамінах быў бачны гонар, што яны датычныя да такой вялікай справы – аднаўлення парафіі і будаўніцтва святыні ў Варапаеве.

А ўжо на парафіяльным фэсце ў гонар святога Міхала, які адбыўся 29 верасня, кожны ахвотны мог набыць кнігу. Прычым у людзей меўся выбар: купіць яе ў цвёрдым пераплёце ці ў мяккім. Розніца аказалася невялікай, і было бачна, што людзі набывалі больш дарагое і якаснае выданне. Як аддавалі тады, ужо ў далёкія дзевяностыя, свае грошы, час і сілы, аддавалі ўсё да апошняга, так і зараз вернікі не эканомілі на грашовых сродках. Бо, як і тады, рабілі гэта не дзеля славы, не для сябе, але для Бога.

Мы задалі аўтарцы кнігі, спадарыні Аліне, некалькі пытанняў у сувязі з выхадам выдання.

**– Пані Аліна, як у Вас узнікла ідэя напісання такой кнігі?**

– Справа ў тым, што ў будаўніцтве касцёла ўдзельнічалі шмат маіх знаёмых, родных, мой тата, тры цёці, і наогул вельмі шмат добрых, сціплых вернікаў. Таму аднойчы мы з сястрой параіліся і вырашылі падзякаваць ад нас, прадстаўнікоў малодшага пакалення, вернікам старэйшага ўзросту. І вось мы з сястрой у 2012 годзе, абмеркаваўшы гэта са сваімі знаёмымі, вырашылі падзякаваць будаўнікам. Тады мы зрабілі падзякі ў выглядзе значкоў усім тым, хто спрычыніўся да гэтай добрай справы.

А ўжо сама ідэя наконт кнігі ўзнікла пазней у сяброў касцельнага камітэта. Адзін з іх, ведаючы, што я напісала ўжо тры кнігі, сказаў мне, што нядрэнна было б мець такую кніжку і пра гісторыю адраджэння парафіі, і пра будаўніцтва храма ў Варапаеве. Вось так і з’явілася гэта выданне.

**– Як паставіліся да такой ідэі былыя святары, парафіяне і будаўнікі?**

– Мяне напачатку падтрымаў Пётр Корзан, наш былы парафіянін, які ў той гістарычны час адказваў за гэту будоўлю. Таму я патэлефанавала ў першую чаргу яму, паведаміўшы пра сваю ідэю. Ён адказаў, што гэта вельмі добрая справа. Дадаў яшчэ: калі вы гэтага не зробіце, то, магчыма, не зробіць ніхто. І наша добрая справа паступова забудзецца. Такія былі яго словы. Мяне таксама падтрымала старшыня касцельнага камітэта Раіса Казаровец.



Наша ідэя знайшла самую непасрэдную падтрымку ў пробашча парафіі кс. Ежы Вілька. Некалькі разоў на працягу таго часу, што я рыхтавала кнігу, ён пытаўся, калі яна будзе гатовая, ці ёсць у мяне якія цяжкасці. Мяне ўвесь час падтрымлівалі бацькі і сястра. Тата з мамай хваляваліся, каб я каго не забылася, каб усіх успомніла, каб каго-небудзь не пакрыўдзіла.

**– Напрыканцы ХХ стагоддзя, ды і напачатку ХХІ, у Беларусі адбудавалі і пабудавалі шмат новых храмаў. На Вашу думку, ці варта іншым парафіям пераняць Ваш прыклад, каб гэтыя падзеі і імёны будаўнікоў засталіся ў гісторыі?**

– Я лічу, што гэты прыклад патрэбны і варты пераймання. У мяне ўжо з’явілася такая ідэя наконт Пастаўскай парафіі. Бо я ў свой час таксама збірала матэрыял пра адраджэнне парафіі ў Паставах, да якой зараз належу, брала інтэрв’ю ў тых, хто адбудоўваў касцёл, хто змагаўся за тое, каб яго дазволілі аднавіць. Іх ужо няма, але трэба каб іх імёны абавязкова памяталі нашчадкі. Калі мы пра гэта не будзем памятаць, то мы застанёмся беспамятнымі манкуртамі, і нам, нашым дзецям і ўнукам, не будзе каму падзякаваць за адраджэнне веры.

***

Нам, у сваю чаргу, толькі застаецца падтрымаць ідэю Аліны Латыш і звярнуцца да прадстаўнікоў усіх парафій Віцебшчыны, каб занатоўвалі і запісвалі ўспаміны тых, хто захоўваў і адраджаў веру ў вашых парафіях. Бо мабільны тэлефон зараз мае кожны.

Магчыма, цяпер няма ў вас тых людзей, хто б ініцыяваў выданне гэтых сведчанняў, але калі яны будуць, то такія людзі абавязкова знойдуцца. Гэта і стане нашым пасланнем нашчадкам: захаваць веру нашых бацькоў і дзядоў.



## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Лапушынская Р.В.** *(Коўзаны)*, **Альдона Макоўская** *(Відзы)*, **Соф’я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Мечыслава Крумплеўская** *(Падворынка)*, **Яніна Курыловіч** *(Курылавічы)*, **Данута Мароз** *(Лонскія)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Эвеліна Клімантовіч** *(Бярозаўка)*, **Кісель Л.С.** *(Быстрымаўцы)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Тэрэса Варановіч** *(Докшыцы)*, **Яўгенія Паўлава** *(Віцебск)*, **Яніна Курыловіч** *(Шаркаўшчына)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Эма Бугаева** *(Лынтупы)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Вера Шыкшнян** *(Гірэйшы)*, **Марыя Казакевіч** *(Відзы)*, **Яна Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Ангеліна Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Станіслава Носка** *(Мосар)*, **Аліна Палілейка** *(Мосар)*, **Марыя Мурзіч** *(Мосар)*, **Вераніка Курыловіч** *(Мосар)*, **Станіслава Жук** *(Мосар)*, **Ірына Сіманенкава** *(Мосар)*, **Галіна Міхалевіч** *(Мосар)*, **Ала Калмук** *(Радзюкі)*, **Зоф’я Ласоўская** *(Радзюкі)*, **Рэгіна Бука** *(Радзюкі)*, **Аліна Альсевіч** *(Карэлія)*, **Чэслава Яцына** *(Шаркаўшчына)*, **Алена Кукліна** *(Баравуха)*, **Яна Кукліна** *(Баравуха)*, **Валянціна Рыбак** *(Гомель)*, **Вінцэнты Навіцкі** *(Браслаў)*, **Лоўкіс Л.В.** *(Навасёлкі-2)*, **Голубева Д.Н.** *(Бабінавічы)*, **Вашкевіч М.М.** *(Лапуны)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Даната Варанько** *(Друя)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Алена Ціннікава** *(Мінск)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы “Каталіцкаму Весніку” сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар’янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка”*

# Сузалежнасць ад алкаголю. Што з гэтым рабіць?

*Я жыву ў сям'і, у якой бацька пастаянна ўжывае алкаголь. Часта чую ад сяброў, што я сузалежны чалавек. Як мне змяніць сітуацыю? Ці ёсць нейкая дапамога з боку Касцёла такім людзям? Што параіце рабіць?*
*Уладзімір*

**На пытанне адказвае ксёндз Алег Хмылко:**



– Сям'я, у якой хтосьці мае залежнасць ад алкаголю, з'яўляецца дысфункцыйнай. У такіх сем'ях заўсёды прысутнічае напружанасць, неспакой, пачуццё хаосу і непрадказальнасці, злучанае з унутраным болем. Патрэбы дзяцей пастаянна не задавальняюцца, таму што бацькі недаступныя для дзяцей альбо фізічна (напрыклад, пітушчы бацька рэдка бывае дома), або эмацыйна (у перыяд цвярозасці бацька думае пра тое, як бы выпіць, а маці, паглынутая думкамі, як утрымаць мужа ад выпіўкі).

Алкагалізм становіцца "цэнтрам" сям'і, вакол якога сканцэнтраваныя ўсе думкі, пачуцці, дзеянні і паводзіны іншых сямейнікаў. Незалежна ад таго, п'е ў сям'і толькі адзін з бацькоў або таксама і іншыя родныя, алкагалізм – хвароба агульная. Гэта звязана з тым, што паводзіны алкаголіка настолькі дэфармуюць адносіны паміж чальцамі сям'і, так уплываюць на эмацыйны клімат, што хворымі становяцца таксама і блізкія людзі, якія жывуць з залежным чалавекам пад адным дахам.

Кожны чалец сям'і становіцца сузалежным (узаемазалежным), які пакутуе ад той жа хваробы, і які мае тыя ж сімптомы: пачуццё віны, сорам, развітыя абарончыя механізмы, глушэнне балючых пачуццяў, пазбяганне блізкіх кантактаў з іншымі людзьмі і да т. п. Сістэма, якая павінна аб'ядноўваць усю сям'ю, пачынае падтрымліваць толькі хваробу, і самога залежнага.

У выніку ўзнікае негатыўны ўплыў хімічнай залежнасці аднаго чальца сям'і на іншых і прыводзіць да прымання імі дысфункцыянальнай мадэлі паводзінаў. Вырастаючы, дзеці алкаголікаў па-ранейшаму ўспрымаюць дысфункцыянальныя паводзіны як нешта натуральнае.

Асобы, што выхоўваліся ў залежных ад алкаголю сем'ях, як дарослыя людзі адрозніваюцца шматлікімі рысамі. Гэтыя рысы паказваюць на рознага кшталту эмацыянальныя праблемы, якія перашкаджаюць такім асобам адпаведна існаваць у грамадстве. Такія рысы з'яўляюцца распаўсюджаным паказальнікам сіндрому ДДА (дарослыя дзеці алкаголікаў).

ДДА – гэта дарослыя асобы, якія выхоўваліся ў сям'і, дзе хтосьці з родных меў алкагольную залежнасць. Пад уплывам неадпаведнага выхаваўчага падыходу залежнай асобы дзеці ў такіх сем'ях сфарміравалі ў сабе пэўныя дысфункцыянальныя рысы сваёй асабовасці, набылі пэўныя праблемы ў адносінах з іншымі сямейнікамі, сутыкнуліся з рознымі страхамі. Усе гэтыя цяжкасці такія асобы сустракаюць не толькі ў дзяцінстве. Усё гэта перакладаецца і на дарослае жыццё.

Сіндром ДДА закладваецца на ўзроўні падсвядомасці асобы і праяўляецца ў двайной ідэнтычнасці дадзенага чалавека. Такая асоба з'яўляецца і дарослым чалавекам, і адначасова дзіцём. Нявырашаныя праблемы з перыяду дзяцінства ў будучыні, у сталым узросце становяцца вялікай перашкодай у эмацыйна-сацыяльным функцыянаванні.

ДДА часцей за ўсё не разумеюць: тое, што яны перажылі ў родным доме, дзе хтосьці з бацькоў (або абодва бацькі) злоўжываў алкаголем, па-ранейшаму мае ўплыў на іх жыццё і самаадчуванне.

Існуе шмат літаратуры, розных даследаванняў і спецыялістаў у гэтай галіне, пералічваюцца многія рысы, характэрныя для ДДА. Прыгадаем, напрыклад: Дж. Дж. Войціц "Дарослыя дзеці алкаголікаў: сям'я, праца, адносіны" (Дж. Дж. Войтиц, "Взрослые дети алкоголиков: семья, работа, отношения", Москва 2014). Дадзеная кніга апісвае найбольш тыповыя праблемы і рысы людзей, якія паходзяць з сузалежных сем'яў, з сем'яў, дзе хтосьці з родных злоўжывае алкаголем.

Каб змяніць сітуацыю, у першую чаргу трэба пачаць са знаёмства з дадзенай тэмай. Даведацца, што такое алкагольная залежнасць і сузалежнасць увогуле. Якія прынцыпы і механізмы паводзінаў дзейнічаюць у такіх сем'ях. Для паглыблення гэтых ведаў варта пачытаць адпаведную літаратуру, звязаную з тэмамі залежнасці і сузалежнасці.

Далейшы крок, каб змяніць сітуацыю, гэта пошук групы самадапамогі – т. зв. групы ДДА, у якіх такія асобы працуюць над сваёй сузалежнасцю.

У цяжкіх выпадках патрэбна індывідуальная тэрапія і дапамога спецыяліста. І толькі потым, калі ўжо ступень сузалежнасці знізіцца, такі чалавек накіроўваецца ў групу самадапамогі для далейшага працэсу выздараўлення.

Касцёл спецыялізаванай тэрапеўтычнай дапамогі не прадастаўляе, бо гэта сфера дзейнасці тэрапеўтаў ды псіхолагаў. Касцёл можа дапамагчы ў пытаннях духоўных, звязаных з дадзенай тэмай, напрыклад, праз сакрамант пакаяння і паяднання (споведзь), праз духоўнае кіраўніцтва. Таксама пры некаторых парафіях у вялікіх гарадах паўстаюць групы ДДА (групы самадапамогі).

Каб пачаць шлях выздараўлення, шлях выхаду з сузалежнасці, трэба пазнаёміцца з дадзенай тэмай праз літаратуру, знайсці групу самадапамогі і пачаць удзельнічаць у іх сустрэчах. Таксама павінна быць блізкае супрацоўніцтва са святаром праз сакрамант пакаяння і паяднання (споведзь) і праз духоўнае кіраўніцтва.

**Рэкамендаваная літаратура для знаёмства з праблемай сузалежнасці (літаратура даступная на рускай мове):**

- *Дж. Дж. Войтиц. **"Взрослые дети алкоголиков: семья, работа, отношения".***
- *М. Битти. **"Алкоголик в семье, или Преодоление созависимости (как перестать контролировать других и начать заботиться о себе)".***
- *Д. Кардер, Г. Клауд, Дж. Таунсенд, А. Бравнад, Э. Хенслин. **"Семейные секреты, которые мешают жить".***
- *Б. Уайнхолд, Дж. Уайнхолд. **"Освобождение от созависимости".***
- *Р. Хемфельт, П. Майер, Ф. Минитр. **"Выбираем любовь. Как победить созависимость".***
- *В. Москаленко. **"Зависимость: семейная болезнь".***

# Што такое жалоба і як яе правільна захоўваць?



**Ад людзей старэйшага пакалення мы ведаем пра звычай, што пасля смерці блізкай асобы трэба на працягу года насіць чорнае ўбранне, якое выказвае жалобу. У сваю чаргу Касцёл нічога не кажа наконт таго, колькі павінна працягвацца жалоба, што можна рабіць падчас яе, а чаго трэба пазбягаць.**

■ **кс. Віктар Ханько**, *grodnensis.by*

Мы, хрысціяне, верым, што жыццё чалавека не заканчваецца ў момант смерці яго цела. Мы разлічваем на сустрэчу з нашымі блізкімі ў Валадарстве Божым.

Калі дарагая нам асоба адыходзіць, прымірыўшыся з Богам і Касцёлам, мы маем права жыць надзеяй, што раней ці пазней яна трапіць на Неба. Аднак мы ведаем, што, нягледзячы на адпушчаныя грахі, неабходна адпакутаваць за свае злачынствы на зямлі. Калі чалавек не зрабіў гэтага пры жыцці, ён пакутуе ў чысцы.

Блізкія, якія хвалююцца за душу памерлай асобы, могуць скараціць час яе прабывання ў чысцы праз індывідуальныя малітвы ў яе інтэнцыі, замоўленыя св. Імшы, а таксама праз атрыманне адпусту згодназумовамі, пастаўленымі Касцёлам.

Такім чынам, можна сцвердзіць, што жалоба, якая знешне праяўляецца праз нашэнне адзення чорнага колеру, служыць выключна для сведчання людзям навокал нашага болю пасля страты блізкай асобы.

Аднак ад католіка, акрамя знешняга знаку, чакаеш чагосьці большага. Калі перад смерцю сваяка ці сябра мы зрабілі ўсё магчымае для яго прымірэння з Богам, а пасля яго смерці молімся ў інтэнцыі збаўлення гэтай душы, то дадаткова можам паказаць нашую скруху праз жалобную вопратку.

У тым выпадку, калі мы нічога не робім для таго, каб зменшыць час у чаканні раю для памерлай асобы, то нашэнне жалобнага адзення з'яўляецца толькі спробай паказаць іншым тое, чаго няма, а менавіта клопат пра памерлага.

# Гадание и жребий.
## Можно ли решать свою судьбу гаданием?

**Можно ли решать свою судьбу гаданием? Например, если я не могу принять какое-либо решение, можно ли написать разные варианты на листочках и вытянуть, сопровождая это молитвой и прося Бога ответить?**

Улаживание каких-либо вопросов и сомнений посредством гадания – это практика, осужденная Церковью. Но прежде всего она была осуждена в Священном Писании.

Святой Фома Аквинский проводил различие между "жребием разделительным", "жребием совещательным" и "жребием предсказательным". "Если по жребию хочешь узнать, кому достанется та или иная вещь – материальные блага, почести, должность, – то это жребий разделительный. Если же ты хочешь знать, что делать, то это жребий совещательный. Если же хочешь знать будущее, то это жребий предсказательный", – писал Св. Фома в "Сумме теологии" (том 2, часть 2).

Автор вопроса ведет речь, конечно, о "жребии совещательном". С помощью такого жребия мы искушаем Бога, поскольку пытаемся принудить Его к тому, чтобы Он явил Свою волю посредством тех инструментов, которые установил не Он, а мы сами.

Единственный путь, возможный для христианина в сомнении, путь к принятию решений и познанию воли Божьей, – это распознавание, в котором помогают собственная рассудительность и советы компетентных людей: родителей, наставников, духовного отца. Распознавание должно сопровождаться неустанной молитвой и жертвой, чтобы лучше подготовить себя к тому, что угодно Богу.

*Радио Ватикана*



*Как христианин должен относиться к астрологии, к гороскопам?*

# Христиане и гороскопы



Первоначально слово "астрология" было синонимом "астрономии" – науки о звёздах. Эти два слова употреблялись в одном значении вплоть до первого столетия христианской эры и даже позднее.

В настоящее время астрология обозначает совокупность практик, претендующих на изучение различных воздействий небесных тел на человека, определяющих черты его характера, его решения и действия, а также исторические события.

Колыбелью астрологии был Вавилон. Об этом свидетельствуют тысячи глиняных дощечек ассирийского царя Ашшурбанапала *(VII век до Р.Х.)*. Из Ассирии астрология распространилась в Персии, Индии, Китае, а позднее проникла в Грецию и Рим.

Римская империя, а затем Церковь активно боролись против астрологических практик. Астрология вновь расцвела в средние века, прежде всего благодаря арабам.

Вплоть до XVIII века астрология была широко популярна и практиковалась в основном среди простого народа. И в наши дни у неё немало поклонников, судя по доверию гороскопам и важности, придаваемой его предсказаниям.

Астрология является древним методом волхвования. С самого начала Церковь осуждала эту практику. Толедский собор постановил: *"Если ктонибудь думает, что нужно верить астрологии, да будет тому анафема"*. Собор подразумевал довольно распространённый менталитет, согласно которому человеческие действия следовало приписывать звёздам, а в конечном счёте – Богу. Тем самым отрицалась свобода человека. Святой Августин писал по этому поводу: *"Астрологи притязают на то, что на небесах находится неизбежная причина греха: будь то Венера, Сатурн или Марс, которые заставили нас сделать то или другое, чтобы оправдать человека, плоть и кровь с гордой трухой, и обвинить Того, Кто создал и держит небо и звёзды"*.

И ещё: *"Нужно признать, что когда астрологи говорят правду, то это происходит под оккультным воздействием, которому подвергаются человеческие души, не осознавая этого. И поскольку это происходит с целью обмана людей, то действие это исходит от нечистых духов и искусителей, которым дозволено иметь некоторые сведения о земных вещах. Вот почему добрый христианин должен остерегаться астрологов и всех, кто прибегает к искусству прорицания, особенно когда предсказывают правду: чтобы они не обольстили его душу посредством общения с бесами и согласия с ними"*.

Безусловно, небесные тела, и особенно Луна, оказывают определённое воздействие на природу (достаточно подумать о том, как важны фазы Луны для земледельцев, когда они собираются сеять или переливать вино). Небесные светила наряду с другими метеорологическими факторами могут воздействовать на настроение человека и на такие события, как роды. Но они, как писал св. Фома Аквинский, *"не могут прямо воздействовать на интеллект и волю. Человек обладает способностью к суждению и рассуждению о том, что он может сделать, и это касается как использования внешних вещей, так и того, поощрять или отвергать внутренние страсти. Это было бы бесполезным, если бы наша воля зависела от звёзд и не была бы в нашей власти. Таким образом, светила не могут быть причиной решений нашей воли"*.

Астрология, претендующая на научную классификацию согласно созвездиям, на самом деле неспособна создать индивидуальный гороскоп для каждого отдельного человека. Положение звёзд для тех, кто родился более ли менее в одно и то же время, одно и то же. Получается, что для этих людей гороскоп, а значит и судьба совпадают?

Десятки людей обладают тем же гороскопом, что Наполеон, Гёте или Ганди, но нельзя сказать, что все они обладают одной участью и характером. В конце концов, это невозможно даже для близнецов.

Гороскоп является одной из наиболее популярных форм астрологии. Для многих это не что иное, как игра или мода. Для других – направление в жизни. Увы, некоторые принимают свои решения в зависимости от прочтения знаков зодиака.

Чаще всего гороскопами увлекаются люди мирские, далекие от Церкви, не верующие в Бога и не практикующие никакой религии. Именно о них писал святой апостол Павел: *"Называя себя мудрыми, обезумели" (Рим 1,22)*.

Катехизис Католической Церкви без всяких колебаний осуждает астрологию, утверждая, что она противоречит вере в абсолютное господство Бога над нашей жизнью.

Вот текст Катехизиса: *"Обращение к гороскопам, астрология, хиромантия, толкование предзнаменований и судеб, феномены ясновидения, обращение к медиумам скрывают за собой желание получить власть над временем, над историей и, в конечном счёте, над человеком, и одновременно стремление расположить к себе некие оккультные силы. Все эти явления находятся в противоречии с поклонением и почтением, соединенными со страхом, исполненными любви, которые подобают одному только Богу" (2116)*.

*"Бог может открыть будущее Своим пророкам или другим святым. Тем не менее праведное христианское поведение состоит в том, чтобы с доверием предать себя в руки Провидения в том, что касается будущего, и отказаться от всякого нездорового любопытства по этому поводу" (2115)*.

*Радио Ватикана*

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**28 кастрычніка 2018 г.**
***Мк 10, 46-52***

Барталамей прызнаў, што Езус – гэта чаканы Месія і, нягледзячы на праблемы, не саромеючыся людзей, ён гучна просіць у Яго літасці. Езус аздаравіў яго і прызнаў, што менавіта вера гэтага чалавека стала прычынай аздараўлення. Барталамей верыў у Езуса і Езус пацвердзіў перакананне, што Ён – Месія. Гэты просты чалавек вачыма веры ўбачыў у асобе Хрыста Збаўцу. Аздароўлены Барталамей пайшоў далей, сэрцам, поўным веры, прадчуваючы, што гэта не канец, а пачатак дарогі Збаўлення.

*– Кім з'яўляецца Езус у маім жыцці?*

*– Што бачаць вочы маёй душы?*

*– Ці іду я да Яго са сваёй бядой?*

*– Ці не лічу, што свае праблемы выраш сам і ніколі не прашу ў Яго падтрымкі і дапамогі?*

*– Ці не хачу ўсё зразумець сваёй мудрасцю?*

*– Ці не лічу, што Езус і Яго навука замалыя для маіх спраў?*

*– Ці ўмею супрацьстаяць думкам і перакананням людзей, якія перашкаджаюць мне ісці да Бога?*

*– Ці хапае мне рашучасці, каб маліцца, спавядацца, хадзіць у касцёл і жыць паводле Божай навукі, хоць навокал усе супраць?*

*– Ці іду я за Богам, калі бачу Божае дзеянне ў сваім жыцці?*

*– Ці не бывае так, што, атрымаўшы патрэбнае, адыходжу ад Бога далёка?*

*– Ці разумею, што верыць трэба ў Асобу Езуса?*

**4 лістапада 2018 г.**
***Мк 12, 28 б-34***

Адзін з кніжнікаў пачуў ад Езуса словы, што ён недалёка ад Божага Валадарства. Гэты кніжнік зразумеў вучэнне Езуса пра першынство закону любові. Калі гаворым, што Бог – наш Кароль і Валадар, а мы ўдзельнікі Яго Валадарства, то таксама мусім прызнаць гэты закон першым. Бог хоча, каб мы любілі Яго з усіх сіл, а бліжніх – як саміх сябе.

*– Ці разумею, што сапраўдная вера і пабожнасць – гэта любоў да Бога і да бліжняга?*

*– Як я люблю Бога?*

*– Ці люблю Яго больш за ўсё і за ўсіх?*

*– Ці веру, што Ён не вядзе мяне да дрэннага?*

*– Ці раблю ў сваім жыцці месца для Бога?*

*– Хто ў маім жыцці на першым месцы, калі" выпіхваю" Бога на другое, на трэцяе?*

*– Ці люблю іншых, як сябе, і ці хачу для іх таго ж, што і для сябе?*

*– Ці люблю сябе добрай Божай любоўю?*

*– У чым праяўляецца мая любоў да Бога і бліжняга?*

*– Ці не праяўляецца мая любоў толькі на словах?*

**11 лістапада 2018 г.**
***Мк 12, 38-44***

Езус не хоча, каб вера і адносіны з Богам былі прычынай развіцця сярод людзей зайздрасці, крывадушнасці, гардыні і карыслівасці. Сапраўдны вернік не павінен выкарыстоўваць веру для самазадавальнення або для ўзвышэння сябе над іншымі. Вучань Езуса павінен пазбягаць пыхі, быць сціплым чалавекам, які аддае хвалу Богу, а не сабе. Вучань Езуса павінен быць ахвярным. А найперш павінен усю сваю надзею і ўсе справы свайго жыцця скласці ў Божыя рукі і жыць згодна з Божай воляй, якую распазнае ў супольнасці Касцёла.

*– Ці не выкарыстоўваю сваю веру, каб развіваць ганарлівасць і прыпісваць сабе славу, якая належыць Богу?*

*– Ці дзякую Богу за дабро, якое Ён зрабіў праз мяне?*

*– А можа, давяраю сабе?*

*– Ці ахвярны я?*

*– У чым гэта ахвярнасць праяўляецца?*

*– Ці звязваю сваё жыццё з Богам і Яго воляй?*

*– А можа, Бог – гэта толькі дадатак да маіх спраў?*

*– Можа, давяраю сабе, людзям, грашам, але толькі не Богу?*

**18 лістапада 2018 г.**
***Мк 13, 24-32***

Трэба, каб мы заўсёды былі гатовымі на сустрэчу з Богам. Канец гэтага свету і суд будзе невядома калі. Назіраючы за знакамі, можна сказаць што гэты дзень набліжаецца. Але гэтыя знакі не настолькі дакладныя, каб сказаць, што тое будзе заўтра або яшчэ не хутка. Вельмі важнай з'яўляецца пастава чування, чакання сустрэчы з Панам. Магчыма, ужо сёння будзе канец свету. Або, хутчэй за ўсё, гэта будзе мой уласны канец свету, г.зн. мая смерць. Гатоўнасць да любога развіцця падзей – гэта пастава хрысціяніна.

*– Ці памятаю, што жыццё на гэтым свеце не з'яўляецца вечным?*

*– Ці ўсведамляю часовасць існавання свайго і ўсяго свету?*

*– Ці гатовы я сёння на сустрэчу з Богам: на канец свету ці сваю смерць?*

*– Ці знаходжуся я ў ласцы пасвячальнай, г.зн. у еднасці з Богам?*

*– Ці не веру ў сваю несмяротнасць і таму думку пра навяртанне адкладваю на невядомае будучае?*

*– Ці малюся аб ласцы добрай смерці (з чыстым сэрцам і паспавяданы) для сябе і сваіх блізкіх?*

*– Ці малюся за памерлых, каб ім дапамагчы, бо яны ўжо перад Божым судом?*

*– Ці прашу Бога аб прабачэнні маіх грахоў?*

*– Ці навяртаюся?*

*– Ці давяраю Богу?*

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. Павел Кнурэк,***
*Віцебск*

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

# ПАЗНАВАЙКА

## Пазнаём Біблію разам! Стварэнне Свету.

*Паглядзіце навакол, мае дарагія сябры. Вы ўбачыце людзей, дамы, горы, лясы, камяні, дрэвы, прыгожыя кветкі, розных жывёл, птушак, жукоў, матылькоў. Калі паднімеце вочы ўверх, то ўбачыце над сабой велізарнае блакітнае неба і ветлівае сонейка. Свет такі разнастайны, што не хопіць і нашага жыцця, каб назваць усё, што знаходзіцца ў ім. Але быў час, калі не было ні людзей, ні жывёл, ні дрэў, ні камянёў, ні неба, ні самой зямлі. Быў толькі адзін Міласэрны Бог. Ён захацеў, каб з'явіўся ўвесь гэты цудоўны свет. Давайце разам паназіраем са старонак Біблії, як Бог стварыў Свет:*

ЗАДАННЕ: Прачытай разам з бацькамі гісторыю стварэння Свету, якая апісана ў Біблії ў кнізе Быцця 1—2,3.

### Заданне 1.

Дарагі сябра, ты даведаўся як Бог стварыў Свет. А цяпер давай разам праверым твае веды. Пазнач у вугле кожнага малюнка, у які дзень Бог гэта стварыў.

- Людзі і жывёлы
- Святло і Цемра
- Неба і Вада
- Рыбы і Птушкі
- Суша і Расліны
- Сонца, Месяц і Зоркі
- Бог адпачывае




### Заданне 2.

У Бога было вельмі шмат працы, дапамажы Яму закончыць справу стварэння жывёл. Дамалюй кожнай зебры палоскі, а кожнаму жырафу плямкі. Размалюй.



### Заданне 3

Бог стварыў па пары кожнай жывёле, каб ніхто не сумаваў! Знайдзі на малюнку кожнай жывёле яе пару, і размалюй іх.



### МАЛІТВА

У касцёле месяц лістапад – час асаблівай малітвы за нашых памерлых, якія ўжо скончылі зямное жыццё і адышлі да Бога па ўзнагароду. Яны патрабуюць нашай малітвы і ахвяры. Памаліся разам з бацькамі словамі наступнай малітвы:

“Мой Нябесны Ойча, прашу Цябе за ўсіх памерлых! Прабач ім іх зямныя правіны, і прымі ў Сваё Валадарства, каб разам з Табою і ўсімі святымі яны маглі цешыцца з вечнага шчасця прабывання ў небе. Амэн”.

### Заданне 4.

Прачытай разам з бацькамі гісторыю ў кнізе Быцця 3, 1-7 пра тое, як першыя людзі праз непаслухмянасць разрываюць сувязь з Богам. Калі правільна злучыш кропкі, даведаешся, хто спакусіў першую жанчыну, калі яна пакаштавала забаронены плод. Размалюй.



### Заданне 5.

Пра тое, як называлася дрэва, пладоў ад якога Бог сказаў чалавеку не есці,ты таксама можаш прачытаць ў кнізе Быцця 2, 9-17. Дапішы ў квадрацiках назву гэтага дрэва.




### Святая Цэцылія – апякунка касцельнай музыкі



Святая Цэцылія была рымлянкай з багатага і знатнага роду. Яна з юнацтва ўспрыняла хрысціянскую веру і старанна малілася, дапамагала людзям, якія жывуць у нястачы, пад багатай вопраткай хавала валасяніцу. Бацькі вырашылі выдаць Цэцылію замуж за шляхетнага язычніка Валяр'яна. Будучая святая не адважылася спрачацца з воляй бацькоў, але са слязамі малілася Богу, каб яе жаніх паверыў у Хрыста, а яна захавала б цноту. Святой атрымалася навярнуць да сапраўднай веры ў Хрыста свайго мужа, а таксама яго брата. Браты раздалі частку свайго маёнтка бедным, даглядалі хворых, хавалі хрысціян, закатаваных ганіцелямі.

Кіраўнік Аммах, даведаўшыся пра гэта, загадаў схапіць братоў і прывесці на суд. Ён запатрабаваў, каб святыя адракліся ад Хрыста і прынеслі ахвяры паганскім багам. Браты адмовіліся. Тады іх сталі бязлітасна забіваць да смерці пугамі.

Кіраўнік хацеў завалодаць маёнткам пакараных, але, даведаўшыся, што святая Цэцылія ўжо раздала ўсю маёмасць, якая засталася, бедным і сваім сведчаннем веры навярнула ў хрысціянства 400 чалавек, загадаў пакараць яе смерцю. Тры дні яе марылі жарам і дымам у гарачай лазні, але Божая ласка захоўвала яе. Тады яе вырашылі абезгаловіць. Кат ударыў мячом святую, але толькі параніў. Цэцылія пакутавала яшчэ тры дні ў поўнай свядомасці, узмацняючы ў веры іншых, і памерла з малітвай на вуснах. Гэта здарылася 22 лістапада 230 г. Цела святой было знойдзена нятленным у катакомбах Калікста ў IX ст. Захавалася паданне пра тое, што Цэцылія праслаўляла Бога спевам і ігрою на музычных інструментах, а таму яна лічыцца апякункаю касцельнай музыкі і спеваў, а таксама музыкантаў і спевакоў.

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Колзун***

## Хвала Хрысту!



***Паважаны ксёндз Лешак Вітвіцкі!*** *Віншуем Вас з Днём нараджэння! Жадаем душэўнага спакою, радасці, апекі Маці Божай! Няхай Маці Божая Валадарка Азёраў беражэ Вас ад усяго дрэннага! Няхай у Вас заўсёды будзе моцнае здароўе і добры настрой!*

***Вернікі з в. Быстрамаўцы***

## Хвала Хрысту!

***Паважаны ксёндз і галоўны рэдактар "Каталіцкага Весніка" Віктар Місевіч!***

*Ад імя ўсіх вернікаў парафіі Езуса Міласэрнага ў Паставах прыміце нашы шчырыя віншаванні з Днём нараджэння! Жадаем Вам моцнага здароўя, плёну ў Вашай творчай працы, заўсёднай павагі людзей, якія побач з Вамі, Хрыстовай любові і апекі Маці Божай!*

***Аліцыя Трафімовіч***

## Хвала Хрысту!



*Дарагая наша* ***сястра Ірэна****! Віншуем Вас з імянінамі (20 кастрычніка) і з Днём нараджэння (4 лістапада)! Жадаем Вам моцнага здароўя і доўгіх гадоў жыцця, Божай ласкі на кожны дзень, шмат сіл і трываласці! Мы Вас вельмі любім і паважаем! Дзякуем Пану Богу, што Вы ў нас ёсць!*

***Вернікі з в. Быстрамаўцы***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



Шчыра і сардэчна дзякуем **айцу Раману Шульцу** за цудоўную падрыхтоўку да Ружанцовага Кангрэсу, **біскупу Аляксандру Яшэўскаму** – за ўзнёслыя словы пасля кожнага дакладу і за Вашу, Ваша Эксцэленцыя, святасць! Дзякуем **айцу Віталю Сапегу OP**, **айцу Міхалу Ермашкевічу OP**, **айцу Марыяну Ханускy OP**, спадару **Алесю Жлутку** за цудоўныя даклады!

Усім жадаем Божага блаславлення, дароў Духа Святога, плённай працы на Божай ніве, моцнага здароўя, пастырскай мудрасці, сілы і трываласці, заступніцтва Найсвяцейшай Панны Марыі, дапамогі святога апекуна і ўсіх патрэбных ласкаў!

***Удзячныя ўдзельнікі Ружанцовага Кангрэсу з Негарэлага (парафія Перамянення Пана)***

## Пакой для малітвы

ў Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

Малітва – набажэнствa, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакрамантальная паслуга, размова, кожны аўторак, чацвер і пятніцу з 11.30.
Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне:
+ 375 29 78 51 298

## Прыміце спачуванні

Паважаны **айцец Андрэй Жылевіч**, Ваша мама і ўсе родныя! Мы хочам выказаць словы шчырага жалю, спачування і падтрымкі ў сувязі са смерцю блізкага для Вашага сэрца чалавека – таты. Яднаемся з Вамі ў малітве, дзелячы боль і смутак. Няхай міласэрны Бог дасць сілы, каб перажыць цяжар страты роднага чалавека. Вечны супакой для памерлага...

***Сям'я Гайдзіс***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9:**
1 – В; 2 – Б; 3 – Б; 4 – Б; 5 – А; 6 – А; 7 – А; 8 – А.

# ЧТО ПОЧИТАТЬ?

## Генри Клауд. Джон Таунсенд. "Я не виноват! Как больше не искать оправданий и начать жить"

### Книга двух христианских соавторов-психологов

**У каждого из нас периодически случается полоса неудач, проблем, промахов, и падений. Мы пытаемся анализировать свою жизнь, искать причину всех наших проблем, и чаще всего случается так, что причину мы видим абсолютно не в себе, а в ком-то или в чём-то другом.**

**■ Виктория Заречная**




Мы не пытаемся проследить за полосой неудач и найти общую причину, мы каждый раз рассматриваем отдельную историю промахов и падений в русле: "виноват кто-то другой, но не я". Таким образом, мы продолжаем жить в постоянном обмане самого себя, потому что нам это удобно. Но ежедневное отрицание своей вины может превратиться в опасную ловушку, помешать нам жить такой жизнью, какой мы хотим жить.

Книга поможет перенести внимание с неконтролируемых процессов на контролируемые. Она рассказывает о восьми принципах, которые помогут принимать верные решения и получить наконец-то от отношений с людьми да и от жизни в целом то, что мы хотим. Если более детально, то эта книга о том, как:

- реализовать свои мечты;
- не искать виновных в своих неудачах;
- реально смотреть на свою жизнь без прикрас;
- брать ответственность за свои поступки и промахи на себя;
- принимать ситуацию такой, какая она есть и справляться с ней;
- научиться контролировать свою жизнь и стать ее хозяином.

Данная книга не является магическим руководством к счастливой жизни, после прочтения которой всё будет так, как мы мечтали. Счастливую жизнь создаёшь ты сам, став упорным сработником с самим собой и над собой, прислушиваясь к рекомендациям авторов и следуя намеченному плану.

**Содержание книги:**

Введение.
Глава 1. Кто в ответе за вашу жизнь?
Глава 2. Как вы мыслите?
Глава 3. Выбор есть всегда.
Глава 4. Рискуйте!
Глава 5. Один в поле не воин.
Глава 6. Научитесь говорить "нет".
Глава 7. Неудачи – великие учителя.
Глава 8. Стойкость города берёт.
Заключение.

Если вы хотите взять ответственность за всё происходящее в вашей жизни на себя, честно стоять в правде перед Богом и перед самим собой, то эта книга поможет и подскажет вам, как это реализовать.

# Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"



Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам усяго 2 рублі, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць у якасці ахвяравання 2 рублі можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага зместу:
*363*375295105172*2#
2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.
3. Дашліце USSD-запыт наступнага зместу:
*363*[код пацвярджэння]#
4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумара 364. З балансу Вашага тэлефона будуць спісаныя 2 рублі.

Увага!
Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 2 рублі. Каб даслаць большую суму, неабходна паўтарыць аперацыю.

Рэдакцыя можа атрымаць не больш за 10 рублёў за каляндарныя суткі. Калі Вам прыйшло паведамленне пра памылку, калі ласка, дашліце ахвяраванне яшчэ раз або паўтарыце яго на наступны дзень.

Вялікі дзякуй за ахвяраванні на падтрымку газеты "Каталіцкі Веснік"! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя газеты "Каталіцкі Веснік"***


Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карыкатуры:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 6907

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2900 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 24.10.2018 г. у 11.59

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621

Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь